
Ткачыхі ў Дубінах→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Сакрат ва ўніверсітэце ч. ІІ→8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 49 (3056) Год LIX | Беласток, 7 снежня 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**Перад першым турам сёлетніх самаўрадавых выбараў у Міхалоўскай гміне права голасу мела 5879 чалавек, а перад другім турам было іх ужо 5944, то-бок, больш на 65 асоб. У выбарчай акрузе, дзе знаходзяцца Саколе, Займа і Жэдня, адпаведна было іх на 34 больш. Падчас перадвыбарчай цішыні перад другім турам на міхалоўскіх вуліцах з'явіліся ўлёткі з заклікам да новапрапісаных не галасаваць, таму што будзе ім быццам бы пагражаць за гэта крымінальная адказнасць. Першая сесія новаабранай міхалоўскай Гарадской рады пачалася ў адзінаццаць гадзін да выбарчай цішыні перад другім турам, у якім сутыкнуліся дасюлешні бургамістр Марк Назарка і былы войт Уладзімір Кананчук. За паўкруглым сталом сярод радных на пачэсным месцы засеў бургамістр-кандыдат Марк Назарка са знакамі ўлады — ланцугамі вісеўшымі ў яго на шыі, даючы тэатральным шэптам парады новапрыведзеным да прысягі радным.**



# МІХАЛОВА: гэтыя апошнія дні

Міхалова — самы багаты муніцыпалітэт у паўднёва-ўсходняй частцы Падляшша. Грошы ўпампоўвае ў яго газаправод з Расіі, а менавіта кампрэсарная станцыя і лабараторыя газу ў Кандратках. Краевугольны камень у падмурак станцыі быў закладзены тады, калі войтам быў Уладзімір Кананчук (у 1994-1998 гадах). Штогод ад выплаты падаткаў за іх функцыянаванне Міхалоўская гміна мае каля 8,5 мільёна злотых (дадзеныя за папярэдні год), і нават трохі больш, то-бок, столькі, што бюджэты некаторых гмін.

Ад дванаццаці гадоў, займаючы пасаду спачатку войта, а ад пяці гадоў — бургамістра Марк Назарка (46 гадоў, па адукацыі юрыст, член Грамадзянскай платформы) стартаваў з падтрымкай камітэта «Малая айчына» з лозунгам «Бургамістр усіх жыхароў». Яго апаненту — беспартыйнаму Уладзіміру Кананчуку 60 гадоў. Ён інжынер-механік. Нядаўна кіраваў Павятовай управай дарог. У яго дзевяцёра дзяцей. Радны некалькіх тэрмінаў, у тым ліку папярэдняга, дзе быў у клубе... «Малая айчына». Стартаваў пры падтрымцы камітэта «Гаспадарная і справядлівая гміна Міхалова», а ў перадвыбарчым лозунгу падкрэсліваў: «Вопыт, сумленнасць, здаровы сэнс, больш павагі да людзей». Марк Назарка ў першым туры атрымаў 43,5 % падтрымкі (1507 галасоў), Уладзімір Кананчук — адпаведна 41,7 % (1443). На трэцяга кандыдата — Лешка Грыца было аддадзена 512 галасоў і пасля прайгрышу падтрымаў ён Уладзіміра Кананчука. Яўка ў першым туры дасягнула амаль 60 адсоткаў, то-бок, прынялі ў выбарах удзел 3547 чалавек. У Раду горада Міхалова камітэт Марка Назаркі 16 лістапада прадставіў дзевяць радных, камітэт Уладзіміра Кананчука — пяцёх. У ГР засядзе яшчэ радны ад камітэта «Незалежны — Адважны — Салідны» Яўген Нос.



## Газеты дзве

Перад выбарамі здавалася, што ні адзін з 21 пункта-абяцання Уладзіміра Кананчука не можа перабіць заявы Марка Назаркі:

— Мы збіраемся даплачваць да трэцяга і наступнага дзіцяці па 1000 злотых, але штомесяц на працягу 12 месяцаў, а тут, увага, нават да другога па 800 у месяц — таксама за ўвесь першы год жыцця дзіцяці. Такім чынам маладыя людзі будуць мець пачуццё бяспекі, што нават у выпадку незапланаванай цяжарнасці не пагражае ім пагаршэнне матэрыяльнай сітуацыі. Акрамя таго, будучы на смеццевых кантрактах, часта баяліся цяжарнасці — цяпер яны будуць мець камфорт. А першы год гэта перыяд найбольшых выдаткаў.

У лістападаўскім выпуску ратушнай «Gazety Michałowa» паказалася інтэрв'ю з бургамістрам, у якім ён адносіўся да папрокаў контркандыдата:

— Калі наш доўг складае 8 млн., 28 працэнтаў ад усяго гадавога бюджэту, то што можа сказаць суседні нам Гарадок, які таксама мае каля 8 мільёнаў даўгу. Крэдытаздольнасць мае ён значна ніжэйшую, таму што ў яго меншы бюджэт (...). Заява наконт стрымання інвестыцый гэта ў першую чаргу менш рабочых месцаў, а па-другое слабейшы фінансавы стан нашых міхалоўскіх фірмаў, і па-трэцяе — грошы ад ЕС будуць даступны толькі да 2020 года, і, такім чынам як гэта могуць пачакаць? Да якога часу, і для чаго?

Ён нагадаў пра дасягненні за ягоны тэрмін:

— У нас ёсць новыя вуліцы, новыя дарогі, у нас ёсць крыты басейн, вадасховішча, ратуша, гарадскія правы, дарога Жэдня — Міхалова — Юшкаў Груд, маем звальненне ад падаткаў, прынялі Прэзідэнта РП. У нас ёсць шмат фірмаў, перспектывы для новых інвестараў і новыя працоўныя месцы.

«Газета Міхалова» на працягу некалькіх месяцаў з'яўляецца прапагандысцкім рупарам бургамістра Назаркі. У знак пратэсту супраць цэнзарскіх практык бургамістра ў адстаўку з пасады галоўнага рэдактара некалькі месяцаў таму пасля шматгадовага кіраўніцтва пайшоў рэдактар Мікалай Грэсь. Зараз, з сынам Рафалам, выдаюць яны альтэрнатыўны «Głos Michałowa», а Рафал вядзе вельмі шырока чытаны блог:

— У нас ёсць запісы, як бургамістр Назарка дыктуе лісты ад чытачак у «Газету Міхалова», нават прыдумвае іх імёны. Ён сам вырашае, што можа, а чаму нельга з'явіцца на старонках гэтай газеты.

На адной з перадвыбарчых сустрэч прагучала прамое пытанне бургамістру:

— Ці вы падпісваліся пад лістамі ў рэдакцыю жаночымі імёнамі?

Бургамістр:

— Пад ніякімі лістамі ў рэдакцыю я не падпісваўся.

З залы:

— Не ўмееце прызнацца!

Рафал Грэсь у размове з «Нівай»:

— Калі б у Міхалове не было цэнзуры, мы не засноўвалі б «Голасу Міхалова».

Дасюль Ратуша падала ў суд на газету Грэсяў чатырнаццаць іскаў і ўсе прайграла. «Голас Міхалова» і блог Рафала Грэся сталі перад выбарамі інструментам кампаніі Уладзіміра Кананчука. На вокладцы лістападаўскага нумара апублікавалі 21 пункт яго перадвыбарчай праграмы: прыспешу стварэнне Спецыяльнай эканамічнай зоны, сягну да сродкаў з новай перспектывы ЕС, увяду льготы для малых і сярэдніх прадпрыемстваў, працягну вызваленне жыхароў ад выплаты падатку за нерухомасць, зніжу сельскагаспадарчы падатак, анулюю падаткаабкладанне сярэдняй школы...

У перадвыбарчым інтэрв'ю «Газеце Міхалова» Марк Назарка сказаў: «Ёсць два спосабы выканання ўлады і яе дасягнення: або напружаная праца для людзей, і тады людзі карыстаюцца дасягненнямі, або кааліцыі з элітамі — тады тыя эліты да ўлады падымаюцца і затым яны, а не людзі, карыстаюцца ёю. Я з 2002 года выбраў і рэалізую першы варыянт — я працую для людзей». Уладзімір Кананчук у выбарчай улётцы, якая была на развароце «Голасу Міхалова»: «Трэба скончыць з напышлівасцю і марнатраўным распусканнем муніцыпальных грошай на дарагія інвестыцыі. З-за такіх неабдуманых дзеянняў гміна (дзе — гэта акрэсліў раней — аб усім вырашаюць воля і асабістыя амбіцыі бургамістра — М. Х.) ужо небяспечна задоўжылася і трэба будзе пагасіць шматмільённыя крэдыты.

## За свабоду і лепшую будучыню

11 лістапада, то-бок, пяць дзён да першага тура выбараў, у Міхалове насупраць Ратушы (шырока вядомай як Палац), адкрылі гарадскі парк. Высеклі дрэвы, паставілі лавачкі. Быў адкрыты новы помнік «O wolność i lepsze jutro». Помнік уяўляе сабой чатыры кубікі-калоны высокія на больш за пяць метраў і шырокія на адзін метр. З фронту — арол у кароне, зрываючыся да палёту, сімвалічна вырваўшыся на волю. Праз узвядзенне помніка самаўрад Міхалова пад кіраўніцтвам Марка Назаркі хацеў ушанаваць усіх тых, хто прымаў удзел у барацьбе за незалежнасць Польшчы, але і тых, хто «працаваў у напрамку лепшай будучыні для нашай Айчыны і гміны». Па баках помніка — разныя каталіцкі і праваслаўны крыжы («у той жа час, адзначаем, якой каштоўным для самаўрада з'яўляецца жывы мультыкультуралізм, які культывуецца ў гміне»). На задняй частцы — разныя даты самых важных у гісторыі гміны падзей. На левай калоне — частка гімна Міхалова. Цэласць мае каляровую падсветку. Адкрыццё парку і помніка спалучылі са святкаваннем Дня незалежнасці. З'явіліся шматлікія дэлегацыі. Прыйшла таксама група з Комплексу школ. Тым не менш, была яна праігнаравана пры запрашэнні да ўскладання вянкоў і знічоў.

— Нават калі мяне бургамістр асабіста недалюблівае, таму што маю адвагу быць свабодным чалавекам у гміне, дзе толькі адзін чалавек мае на гэта права, ды ж я ў гэты дзень прадстаўляла з моладдзю дзяржаўную ўстанову, — здзіўлялася дырэктарка Комплексу школ Дарота Бурак, не хаваючая ўжо раней крытычных заўваг наконт бургамістра Назаркі, асабліва пасля таго, калі бургамістр абклаў школу пратэрмінаваным падаткам (141 тысяча зл.) ад нерухомасці за будынкі, у якіх — на яго думку — не вядуцца ўрокі:

— Дык нашто ўсё пустыя словы аб бургамістры ўсіх жыхароў, аб дзеяннях на карысць людзей, аб адзінстве ўсіх жыхароў і да г.п.! Ці ігнараванне людзей мае штосьці супольнае з яднаннем грамадства?

Пры нагодзе гэтага падвойнага свята госці маглі ўбачыць некалькі вуліц далей вялікія рэкламныя шчыты з праектамі буйных інвестыцый наступнага тэрміну, а пад якія першыя лапаты ўкапалі ўсяго за некалькі перадвыбарчых месяцаў: цэнтра спорту і адпачынку, дзіцячага сада, стадыёна. Цікава, што бюджэт для інвестыцый у мінулым годзе быў у Міхалове зрэалізаваны толькі ў 14 адсотках. Нявыкарыстаныя грошы перайшлі на бягучы — выбарчы — год, павялічаныя, вядома, на сёлетні інвестыцыйны пул.

## Дэбаты без дэбатаў

Як паведаміў на сваім блогу Рафал Грэсь, перад другім турам выбараў у Ялоўцы адбыліся дзве сустрэчы Уладзіміра Кананчука з выбаршчыкамі. На сустрэчу ў тамашнім пажарным дэпо таксама прыйшоў Марк Назарка з новаабранымі раднымі з яго камітэта: Яраславам Сымко і Марыяй Анціпюк. Блогер паведаміў: «Марк Назарка гучным голасам

працяг ☞4



# Саюзнікі

Чым менш зараз заходні свет прыслухоўваецца да слоў кіраўніка Расіі, зразумеўшы нарэшце які ім ёсць кошт, тым больш Уладзімір Пуцін робіць публічных выступаў і заяў, скіраваных на айчынную аўдыторыю. І трэба аддаць яму належнае, на большую частку суайчыннікаў яго заявы пакуль яшчэ дзейнічаюць. А калі ўлічыць той факт, што кожнае слова расійскага кіраўніка адразу падхопліваецца, адшліфоўваецца і яшчэ мноства разоў прафесійна падаецца праверанымі тэлепрапагандыстамі, то чакаць хуткага расчаравання расійскай тэлеаўдыторыі сваім кумірам наўрад ці варта спадзявацца.

З дэзінфармацыяй пра чароўнае з'яўленне зялёных чалавечкаў у Крыме і нібыта адсутнасць расійскіх ваенных на Данбасе ўсё значна прасцей. Тут расійскія абывацелі праглынулі тую дэзінфармацыю з усмешкай і нават разуменнем, бо яшчэ з савецкіх часоў выхаваныя ў традыцыях нейкай міфічнай „вайсковай таямніцы", якую ні ў якім разе нельга выдаць ворагу. І таму каб таго ворага заблытаць, то дзеля карысці справы нібыта трэба лгаць сваім суайчыннікам.

Пра наяўнасць той вайсковай таямніцы вучылі з першага класа савецкай школы, славячы мальчыша-кібальчыша, які гэтага сакрэту не выдаў нават коштам свайго жыцця. Праўда, як пасля аказалася, ён яго і сам не ведаў, бо як быццам бы і няма зусім той таямніцы. А вось ворагі ёсць. Іх многа і яны паўсюдна, і таму пра зялёных чалавечкаў менавіта ворагаў і падманвалі. Ну а свой народ усё і так нібыта разумеў правільна.

Пра пагрозу для невядома адкуль узніклага рускага свету большасць расійскай аўдыторыі таксама паверыла адразу. Як у гэта можна было не паверыць? Раз ёсць такі рускі свет, значыць і пагроза для яго быць таксама мусіць. Нельга без пагрозы. Ну і традыцыйная палохалка пра агрэсіўнасць НАТА таксама прайшла на „ура".

Але ж па законе жанру аўдыторыю трэба ўвесь час падаграваць усё новымі сенсацыямі і падрабязнасцямі, а то ёй стане сумна і яна выключыць тэлевізар або зробіць яшчэ горш — палезе ў інтэрнэт. А там і да праўдзівай інфармацыі дакапацца можна.

Вось і прыйшлося расійскаму лідару заявіць, што ўсё, што робіцца зараз на Украіне — мера вымушаная. І хоць Расія не думае ўлазіць у хоць якія там канфлікты, у якія яе вельмі стараюцца ўцягнуць, але яна вымушана прымаць нейкія меры, каб забяспечыць бяспеку сваю і сваіх саюзнікаў. Хто канкрэтна хоча ўцягнуць Расію ў канфлікты і ў якія канфлікты расійскі лідар не канкрэтызаваў. Як і не канкрэтызаваў хто ёсць саюзнікамі Расіі, якім і трэба забяспечыць бяспеку.

І вось тут хіба што расійскі кіраўнік моцна пагарачыўся, бо яго любімая аўдыторыя мабыць за апошні год шалёнай ідэалагічнай прапаганды ўпершыню задумалася. Адна справа сябе ратаваць, іншая справа касцы. І дзеля чаго? І хто ж яны такія тыя саюзнікі, дзеля забеспячэння бяспекі якіх зноў трэба расіянам цярпець нейкія нязручнасці?

Калі на ўвазе маюцца рэжымы адабраных сілай ад Грузіі Абхазіі і Паўднёвай Асеціі, то яны на саюзнікаў аніяк не цягнуць, бо нічым расіянам дапамагчы не ў стане, нават калі здарыцца цуд і яны гэта сапраўды зрабіць пажадаюць. Тое сама можна сказаць і пра Прыднястроўе. А таксама і пра Крым, і пра іншыя акупаваныя ўкраінскія тэрыторыі.

А можа расійскі кіраўнік меў на ўвазе краіны-ўдзельніцы мытнага саюза? Казахстан і нашую Беларусь? Але ж казахі пакуль што не спяшаюцца адносіць сябе да рускага свету. Ну а беларусы знаходзяцца ў такім жа самым стане, у якім яшчэ зусім нядаўна была Украіна. І няма аніякай гарантыі, што праз год яна не будзе там, дзе Украіна зараз.

Вось і атрымліваецца, што няма ў расійскага кіраўніка аніякіх саюзнікаў. Няма каму забяспечваць бяспеку. І ніхто не забяспечыць яе яму. Вось таму ён і не назваў тых міфічных саюзнікаў, бо па вялікім рахунку іх проста няма.

А што будзе, калі гэта хутка зразумее і расійскі народ. Напэўна тады ён нарэшце задумаецца, як яму быць далей. Мець такога лідара, што няма аніякіх саюзнікаў, ці ўсё ж памяняць яго, каб зноў саюзнікі з'явіліся.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Лесвіца
## (не)дасканаласці



Словы, як прадметы, зношваюцца не інакш чым звычайны гаршчок — нават калі ён каштаваў пяць тысяч злотых. Спазнаў гэта на сабе мой сусед, які купіў такі ў растэрміноўку. Распавядаючы аб сваім поспеху знаёмым — бо ў гэтым перакананні пакінуў яго красамоўны дылер гаршка — падкрэслівае ягоную касмічную тэхналогію, прыгажосць формы і перш за ўсё вытанчаную функцыянальнасць, якая служыць даставанню пажыўных і смакавых каштоўнасцей са звараняй у ёй стравы. Але што я пішу: стравы?! Яе варыцца ў звычайным паабіваным з эмалі сагане! Мой жа сусед стаў шчаслівым уладальнікам супергіперсучаснай прылады для пераўтварэння горшага ў лепшае, ніжэйшага ў вышэйшае — амаль алхімічнай рэторты, у якой робіцца ператварэнне звычайнай бульбы ў яе істотнае зместіва, нават ідэю толькі злёгку сапсаваную яго племянным матэрыялам. У рэшце рэшт, гэта не так проста пракарміцца ідэямі. Хоць сусед нядаўна схуднеў, скурчыўся ў сабе, але ж запалу адносна якасцей гаршка не гасіць. Надалей распавядае аб ім з асаблівым бляскам у вачах, не шкадуючы хвалы ні яго вытворцам, ні самому сабе. Факт, што мае ён права адчуваць сябе абраннікам лёсу — ва ўсёй ваколіцы ніхто іншы не мае такога. Толькі што той гаршчок не служыць яму для падрыхтоўкі ежы. Гэты гаршчок служыць выключна для... паказвання. Па меншай меры, пакуль за яго не ўплаціць апошні плацёж. А калі пагасіць крэдыт, дык што далей? Колькі ж гэта эмоцый, шаноўнае панства, можа прынесці гаршчок. Таму што гэта не пра дурны гаршчок тут гаворка, а пра тыя эмоцыі.

«Продаж гэта передача эмоцый ад прадаўца да пакупніка». Гэта самае вядомае слоўца гуру ў дзелавым свеце Джордана Белфорта, які нядаўна прыязджаў у Польшчу. На яго (аплачваныя) даклады прыбыў натоўп сасмаглых па поспеху гандляроў, прадпрымальнікаў, уладальнікі рэкламных і піарных агенцтваў. Ні аднаму з іх не мяшала, што той самы Белфорт, які з'яўляецца прадкам постаці з фільма «Воўк з Уолстрыт» у рэжысуры Марціна Скарсэзэ, гэта інвестыцыйны махляр прысуджаны да 22 месяцаў турэмнага зняволення за крадзеж 110 млн. долараў. Белфорт вучыць эфектыўнага абарочвання пустога ў парожняе, каб зрабіць штосьці з нічога. Гэта штукар, гэта прадавец эмоцый. Яго маніфестам з'яўляецца дэвіз: «Можна прадаць усё, наколькі ты дастаткова ўпэўнены».

Мой сусед, шчаслівы пакупнік гаршка за пяць тысяч злотых, гэта здзіўлены воплескамі цыркавай публікі трусік, якога маг выцягнуў за вушы з пустога капелюша. Не ён адзін, на жаль. Хочам гэтага ці не хочам, мы ўсе станем такімі трусамі. Гандляры падманваюць нас рэкламнымі гульнямі. Медыя сенсацыйнымі ньюсамі. Мы купляем усё і нічога, хоць не маем на гэта грошай. Цыркавай арэнай стала таксама палітыка. Выбаршчыкаў, шараговых грамадзян, уцягваюць у яе за вушы. Перадача эмоцый, якія перадаюцца ад тых, хто хоча кіраваць, на тых, хто аддае перавагу кіраваць, настолькі простая, што яе рухаючай сілай з'яўляюцца важкія паняцці, гучныя словы. А тыя, калі імі злоўжываюць, зношваюцца. Іх шляхетная энергія траціць імпэт. Каханне — што гэта значыць сёння каханне? Справядлівасць, патрыятызм, гераізм, радзіма? Таму не дзіўна для мяне, што злоўжываючы імі звыш меры палітыкі, міністры, журналісты, маралісты і г.д., усведамляючы пацёртасць іх значэння, замяняюць іх прыметыўнымі эмоцыямі. Эмоцыі прысвоілі амаль усе сферы грамадскага жыцця. Эмоцыі эфектыўна замянілі змест. Тыя ад залішняга выкарыстання сшарэлі, зрэлятывізаваліся і сталі штодзённымі. Хопіць уключыць тэлевізар, адкрыць любую газету, прыслухацца да размоў у кавярняных агародчыках, каб пераканацца, што ўсё менш і менш у нашым жыцці зместу. Усё больш і больш негатыўных эмоцый.

У старажытныя часы верылі, што ў прыродзе пастаянна адбываецца развой ад форм менш выдатных да больш складаных і больш карысных. На гэтай веры пабудавана так званая тэорыя лесвіцы дасканаласці. Паводле яе ўсё, што марнейшае, імкнецца да менш марнага, а гэта, у сваю чаргу, паддаецца яшчэ большаму палепшванню. Думаючы аб гэтай прыгожай ідэі, баюся, аднак, што ўжо нічога не ўздымаецца па лесвіцы дасканаласці ўверх. Што ўсё ідзе ўніз. Усё ніжэй і ніжэй. Ляціць на фіг. Толькі ў чым тут вінаваты фігі?

**Міраслаў ГРЫКА**



### Вачыма еўрапейца

# Форум падлічвае страты

Кандыдаты Форуму меншасцей Падляшша, якія ўдзельнічалі ў выбарах у самаўрады 16 лістапада са спіскаў Грамадзянскай платформы, не перамаглі. Могуць нават гаварыць пра паразу, але... не гавораць, хаця з іх групы толькі Славамір Назарук з 1757 галасамі ўвайшоў у Гарадскую раду г. Беластока. Кандыдатамі ў гарадскія дэпутаты ад імя Форуму са спіскаў Грамадзянскай платформы («аддала» яна ў ГР Беластока ўладу ПіС), былі трох радных папярэдняга тэрміну: якраз Славамір Назарук (быў у папярэдні тэрмін яе віцэ-старшынёй), Адам Мусюк і Стэфан Нікіцюк, а таксама лекар-неўролаг Ян Кахановіч ды віцэ-старшыня падляшскага сейміка ў мінулым тэрміне, а раней радны беластоцкай ГР Марк Масальскі. Стаць дэпутатамі ў сваю чаргу імкнуліся: Рады Беластоцкага павета — Яўген Семянюк з Новай Волі (у 1990-я гады войт Гарадоцкай гміны); і падляшскага сейміка — настаўніца Луцыя Німяровіч. У сумесным перадвыбарчым звароце напісалі: «Мы ўсе ведаем, што Праваслаўе ад стагоддзяў непарыўна звязана з Беласточчынай і Беластокам — тут мы жывем, вучымся і працуем. Мы лічым, што добра выконваем свае абавязкі і ўнеслі свой уклад у развіццё нашага горада і рэгіёна. Такім чынам, мы павінны адчуваць сябе сугаспадарамі. У нас таксама ёсць неад'емнае права на ўсебаковае развіццё і захаванне сваёй ідэнтычнасці — веры, мовы і культуры. Гэта ад нас залежыць, ці нашы дзеці і ўнукі будуць расці ў традыцыі нашых продкаў». Зварот нічога не даў. Аднак, за чатыры дні да другога тура прэзідэнцкіх выбараў у Беластоку падчас прэс-канферэнцыі пяцёркі нядаўніх кандыдатаў Славамір Назарук ад іх імя сказаў: «Усе нашы кандыдаты атрымалі добры вынік. Мы не збіраемся канчаць самаўрадавай дзейнасці як ФМП і будзем працягваць працаваць для горада і нашага асяроддзя. Пастараемся павялічыць давер выбаршчыкаў перад наступнымі выбарамі».

Віной за вынік абцяжарылі выбарчы закон, які спрычыніўся да таго, што кандыдаты на гэтых выбарах не атрымалі мандатаў, хаця атрымалі лепшы вынік на 30 адсоткаў чым чатыры гады таму, як гэта было ў выпадку Стэфана Нікіцюка: «Мне балюча, што раднымі сталі тыя, хто меў да ста адсоткаў менш, чым я». Ян Кахановіч: «Я здабыў больш галасоў, чым асоба з маёй акругі, якая ўвайшла ў Раду». Марк Масальскі: «Нашы вынікі ў гэтым годзе ў агульнай складанасці падобныя на тыя чатырохгадовай даўнасці» (усе атрымалі ў агульнай складанасці больш за шэсць тысяч галасоў — М. Х.).

Асноўнай мэтай стварэння ФМП (у сярэдзіне 2002 г.) было падрыхтаванне выбаршчыкаў, грамадскіх арганізацый і кандыдатаў да мясцовых выбараў на розных узроўнях. ФМП заснавалі праваслаўныя брацтвы, Беларускі саюз у РП, БГКТ і Саюз украінцаў Падляшша. Ад самаўрадавых выбараў у 2002 г. ФМП уваходзіў у выбарчыя кааліцыі з іншымі камітэтамі, у выбарах 2006, 2010 і 2014 г. падпісаў перадвыбарчае пагадненне з ГП. Дзякуючы каліцыйнаму пагадненню з гэтай партыяй, падтрымліваны ёю прэзідэнт Тадэвуш Трускалескі прызначыў віцэ-прэзідэнтам прапанаванага Форумам Аляксандра Сасну, які ўжо не выконвае гэтай функцыі пасля таго як трапіў у Сейм у выніку выбару ў Еўрапарламент Барбары Кудрыцкай. Апошняе перадвыбарчае пагадненне гарантавала другое месца ва ўсіх пяці акругах на выбарах у Гарадскую раду Беластока, у ваяводскі сеймік у Беластоцкай акрузе — пятае, а ў раду Беластоцкага павета — чацвёртае. Перад другім турам выбараў 30 лістапада дзеячы ФМП не падтрымалі аднаго значна на пасаду прэзідэнта ані падтрымліванага ГП Тадэвуша Трускаляскага, ані яго саперніка ад ПіС Яна Дабжынскага. Толькі абвясцілі: «Заахвочваем прыняць удзел у выбарах». Але таксама дадалі: «Мы не сказалі, што не падтрымліваем Тадэвуша Трускаляскага».

Ні адзін з удзельнікаў прэс-канферэнцыі (Славамір Назарук, Стэфан Нікіцюк, Марк Масальскі, Ян Кахановіч, Яўген Семянюк) не адважыўся сказаць адназначна, што слабы вынік кандыдатаў ФМП з'яўляецца эфектам вельмі дрэннага выніку ГП у Беластоку (і ваяводстве). У лепшым выпадку шукалі прычыну ў разбіцці патэнцыйнага электарату паміж камітэтамі Тадэвуша Трускаляскага і ГП. Застаецца пытанні: ці голас Славаміра Назарука ў бягучым тэрміне паўнамоцтваў ГР будзе заўважаны і ці пасля перамогі на выбарах падкрэсліваючага сваю незалежнасць ад ГП Тадэвуша Трускаляскага / Яна Дабжынскага 30 лістапада ФМП будзе мець дастатковы ўплыў, каб зноў яго кандыдат стаў адным з віцэ-прэзідэнтаў горада.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Вясковыя гаспадыні спатыкаюцца ў Дубінах

**Некалькі гадоў таму была аднаўлена дзейнасць Гуртка вясковых гаспадынь у Дубінах, да якога належаць таксама жанчыны з Пасталова, Бельшчыны, Навасадаў, Альховай Кладкі, Барысаўкі. Спатыкаюцца яны рэгулярна пры рэалізацыі шматлікіх праектаў, часта прымеркаваных да захавання даўніх вясковых традыцый.**

Хаця Дубіны жыллёвай забудовай спалучаны з павятовай Гайнаўкай і на загароддзях селяцца прыезджыя людзі, якія стараюцца жыць па-гарадскому, то сама вёска надалей захоўвае традыцыйны характар у станоўчым значэнні гэтага слова. Людзі размаўляюць тут на сваёй гаворцы, з прыкметамі дзекання і цекання, у летнія нядзелі і святочныя дні выходзяць на лавачкі, каб пагаварыць з суседзямі аб штодзённых справах і ўспомніць мінулае. Малодшыя жыхары Дубін часцей наведваюць Гмінны асяродак культуры, у якім працуюць гмінная бібліятэка, музычны і мастацкі гурткі. Пётр Скепка, музыкант славутага беларускага вакальна-інструментальнага калектыву «Дубіны», вучыць дзетак спяваць і іграць на музычных інструментах. Яго навучэнцы ўжо выступаюць на музычных мерапрыемствах. Дзеткі падчас канікулаў вучацца маляваць, спяваць і танцаваць. Восенню ў асяродку культуры арганізуюцца «Вечары з фальклорам», падчас якіх выступаюць махнацкія «Жаваранкі» і фальклорныя калектывы з суседніх гмін. У прыгожай мураванай Успенскай царкве моляцца праваслаўныя вернікі Гайнаўскай гміны. У новазбудаваным школьным будынку і гімнастычнай зале вучацца дзеткі і моладзь з большасці тэрыторыі гміны. Па-суседску ад царквы знаходзіўся даўні школьны будынак, які быў шыкарна адрамантаваны і пераўтвораны ў Этнаграфічна-экуменічны цэнтр. Менавіта ў гэтым цэнтры спатыкаюцца энергічныя і прадпрымальныя жанчыны з Дубін і суседніх вёсак і ў рамках дзейнасці Гуртка вясковых гаспадынь стараюцца актыўна праводзіць час.

Калі я вечарам прыбыў у дубінскі цэнтр, тры жанчыны сядзелі за кроснамі і ткалі палавікі. Іншыя кабеты разрэзвалі рознакаляровую вопратку, каб пасля доўгія кускі матэрыі можна было выкарыстаць для ткання. Прыходзілі яшчэ іншыя асобы, каб дапамагчы ткачыхам, якіх вучыла Вера Прыступюк з Гайнаўкі. Жыве яна па вуліцы Дольнай, якая раней была асобнай вёскай, а цяпер знаходзіцца ў межах Гайнаўкі. Па гэтай вуліцы яшчэ і зараз жывуць земляробы. У мінулым практычна ўсе тамашнія жанчыны ткалі палатно. Спадарыня Вера навучылася ткаць ад мамы, пасля ткала палавікі на цешчыных кроснах. Кросны, на якіх тчэ цяпер, прыдбаў ёй сын.

— Здараецца, што дзеці або ўнукі паляць старыя кросны, робячы парадкі. Кросны, якія прыдбаў мне сын, не былі адпаведна забяспечаны і караеды пачалі іх есці. Паглядзіце на гэтыя суседнія кросны, як яны цудоўна былі забяспечаны пакостам, — заявіла спадарыня Вера Прыступюк, якая ткала палавік.

За іншымі кроснамі сядзелі намнога малодшыя асобы, якія ўжо навучыліся ткаць, і працавалі.

— Папрасілі мяне, то згадзілася паказаць як трэба рыхтаваць кросны, як ткаць палавікі, што яшчэ масава рабіла маё пакаленне. Нашы мамы ткалі палатно, пакрывалы. Некаторыя жанчыны ў маім узросце займаліся тканнем на продаж. Пасля тканыя ўручную пакрывалы і палавікі сталі нямоднымі. Мае вучаніцы здольныя, хутка навучыліся ткаць палавікі, — заявіла спадарыня Вера, паказваючы на жанчын, што ткалі на суседніх кроснах.

Марыя Кот з Бельшчыны, якая сядзела побач спадарыні Веры, дабавіла, што таксама ткала ў сваім жыцці. Цяпер жанчыны спатыкаюцца ў Этнаграфічна-экуменічным цэнтры, карыстаючыся еўрасаюзнымі сродкамі ў рамках праекта «Кросны — рэч простая».

— Мы хацелі падтрымаць традыцыі і навучыцца ткацтву, якім займаліся практычна ўсе жанчыны ў мінулым. Маю прапанову падтрымалі нашы жанчыны і мы напісалі праект. Зараз еўрасаюзныя грошы з'яўляюцца падставай грамадскай дзейнасці на нашых вёсках. Збіраемся раз у тыдзень, вучымся ткаць. За працай ёсць таксама магчымасць пагаварыць аб штодзённым жыцці, аб зменах у нашых сёлах, ці аб сямейных справах. Так рабілі нашы мамы падчас пакудзелля, ці іншай супольнай працы, — стала расказваць выконваючая абавязкі дырэктара Гміннага асяродка культуры ў Дубінах і заадно намесніца старшыні Гуртка вясковых гаспадынь у Дубінах Раіса Кот. — Частка з нас бачыла яшчэ кросны ў сваіх хатах. Мы выхоўваліся побач іх і таму яны нам так дарагія. Аднак мамы не паспелі навучыць нас ткацтву, бо калі мы сталі падрастаць, то яны перасталі ўжо ткаць. Мы рашыліся зараз вярнуцца да колішняга падставовага занятку, хочам навучыцца ткаць прынамсі палавікі. Гледзячы на іх, будзем успамінаць нашую супольную вучобу, працу і сустрэчы.

Частку вытканага жанчыны плануюць пакінуць у цэнтры, каб сведчыла аб вяртанні да вясковых традыцый. Частку палавікоў прадбачваецца раздзяліць, каб памятка ляжала таксама ў хатах новаабучаных ткачых.

— У Гуртку вясковых гаспадынь дзейнічаюць 24 жанчыны. Раней падчас нашых сустрэч мы выконвалі з папяровай лазы цацкі, ёлачкі і іншыя прадметы. Калі навучыліся круціць паперу на выгляд ракіты, была ахвота выконваць усялякую ўсячыну з перапрацаванай паперы. Рабілі мы таксама кветкі і іншыя аздобы з тонкай паперы, займаліся іншым сучасным рукадзеллем. Аднак рашыліся вярнуцца да традыцыйнага вясковага рукадзелля і таму сталі вучыцца ткацтву. Калі мы сталі працаваць за кроснамі, некаторыя дзеткі, што прыходзілі з мамамі або бабулямі, сталі ткаць з выкарыстаннем невялічкіх рамак, перацягваючы ніткі паміж асновай. У бліжэйшы час хочам выканаць ёлачныя ўпрыгажэнні, якія рабілі ў мінулым у нашых вёсках, — сказала старшыня Гуртка вясковых гаспадынь Хрысціня Вайтулевіч.


Жанчыны з Гуртка вясковых гаспадынь у Дубінах разрэзваюць старую вопратку на палосы, каб пасля выкарыстаць іх для ткання палавікоў (справа стаіць старшыня гуртка Хрысціня Вайтулевіч)

Раіса Кот запрапанавала жанчынам калядаванне падчас Божага Нараджэння, дзеля чаго трэба будзе развучваць калядкі.

— Мы тут прыемна праводзім час і адпачываем ад штодзённасці. Запрашаем таксама іншых жанчын на сустрэчы. Колькасць членаў нашага гуртка павялічваецца, — дабавіла дырэктар Раіса Кот.

У мінулым годзе ў дубінскім цэнтры жанчыны рэалізавалі праект «Вёска — як маляваная», у рамках якога жывапісец Мікола Яноўскі са Старога Беразова вучыў жанчын маляваць алейнымі фарбамі. Нядаўна закончыўся праект «Асенняя сустрэчы з традыцыяй і смакам», падчас якога жанчыны вучыліся рыхтаваць харчовыя вырабы. Перш за ўсё купілі свежую свініну і зрабілі з яе мясныя вырабы, карыстаючыся дапамогай Іаланты Кузыкі са Старога Беразова. Зрабілі смачныя вяндліну, каўбасу, сальцісон і шмалец. Частку вырабаў замарозілі і карыстаюцца імі падчас сустрэч. Ад рэалізаванага праекта застаўся буклет з рэцэптамі традыцыйных вясковых страў, якія жанчыны сабралі ад старажылаў і запісалі для нашчадкаў. На падвядзенне вынікаў харчовага праекта жанчыны запрасілі беларускі калектыў «Жаваранкі» з Махнатага, гурт «Вэрвачкі» з Орлі і мясцовы дуэт «Маня і Ваня».


Тканню вучыла Вера Прыступюк з Гайнаўкі (збоку яе стаіць выконваючая абавязкі дырэктара ГАК у Дубінах Раіса Кот)

— Калі мы хочам нешта зрабіць, спачатку абдумваем чым будзем займацца і як будзем рэалізаваць нашую задуму. Найчасцей рыхтуем адпаведны праект, на які можна атрымаць еўрасаюзныя сродкі. Спатыкаючыся тут, мы варым сабе гарбату або каву і частуемся пячэннем, якое нехта з нас прынясе, — гаварылі жанчыны з гуртка гаспадынь Івона Міранчук, Галіна Цагелка, Іаланта Сецярэк і Віялета Сецярэк. Сказалі яны таксама, што рады экскурсіям, якія ладзяцца ў рамках праектаў. Дубінскія жанчыны ездзілі глядзець раслінныя ўпрыгажэнні агародаў, пабывалі ў музеі ў Бельску-Падляшскім, знаёміліся там, між іншым, з тканымі ручнікамі. Выязджалі таксама на экскурсію ў Музей ікон у Супрасль, зімой каталіся на санях па лесе. Члены гуртка гаспадынь сталі таксама апекавацца даўняй мураванай часоўняй, распаложанай побач Дубін, магіламі, што захаваліся каля яе, прыбіраюць гэтыя месцы.

— Зараз мы рэалізуем новы праект «Малыя мясцовасці ў час „Круглага стала"». Дзеткі і моладзь сталі збіраць здымкі зробленыя ў 1989 годзе або прыблізна каля гэтага часу. Шляхам конкурсу будуць вылучаны лепшыя фатаграфіі на выставу. Хочам паказаць жыццё ў Дубінах і наваколлі на зломе васьмідзясятых і дзевяностых гадоў, калі ў краіне адбываліся палітычныя і эканамічныя перамены. Падчас рэалізацыі праекта «Сустрэнымася ў Дубінах» жанчыны мелі магчымасць пазнаёміцца з мінулым вёскі, — сказала Івона Міранчук.

— У нашай гміне аднавіў дзейнасць Гурток вясковых гаспадынь у Старым Беразове, з якім мы наладзілі супрацоўніцтва. Спатыкаемся, каб пагаварыць, адпачыць. Апошнім часам сустрэліся пры вогнішчы, — сказала старшыня дубінскага гуртка Хрысціня Вайтулевіч.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

1 ☞працяг

# МІХАЛОВА:
## гэтыя апошнія дні




уваходзіў у слова размоўцаў. Перапыняў іншых і перашкаджаў жыхарам задаваць пытанні. Жыхары гаварылі аб неабходнасці лепшай арганізацыі дадвозу дзяцей у школу ў Міхалове. Гаварылі пра недахоп добрай дарогі ў Юшкаў Груд. Аб адсутнасці добрай дарогі з Ялоўкі ў Залешаны. Аб нішчэючым будынку былой школы ў Шымках. Аб абмежаваным доступе да лекара. Аб небяспечнай футбольнай спортпляцоўцы для дзяцей. Пра адсутнасць працы. Аб тым, што ў ваколіцы Ялоўкі ёсць перапампоўня газу, з якой ёсць грошы, і ў той жа час пра Ялоўку забыліся. Аб адсутнасці добрай дарогі з Міхалова, праз Падазераны, у Ялоўку».

З іншага запісу можна даведацца, што Марк Назарка пасля таго як даведаўся пра арганізаванае ў міхалоўскай піцэрыі «Гранд Піца» спатканне з Уладзімірам Кананчуком, звязаўся з уладальнікам будынка і сказаў, што ён не жадае сабе, каб гэтая сустрэча адбылася. Уладальнік скантактаваўся з вядучым рэстаран і выказаў незадаволенасць у сувязі з арганізацыяй выбарчай сустрэчы. Пасля ўмяшання асоб, звязаных са штабам Уладзіміра Кананчука, сустрэча, аднак, адбылася.

25 лістапада ў Гмінным цэнтры культуры — установе Гміннай управы — былі сарганізаваны дэбаты з адмысловай формулай, у тым ліку з раней падрыхтаванымі чатырма пытаннямі кожнаму кандыдату, распрацаванымі дырэктаркай Цэнтра Альжбетай Паліноўскай. Тым часам, адразу пасля адкрыцця дэбатаў, кандыдат Кананчук выйшаў з залы. Публіка не дазволіла вядучай задаваць падрыхтаваныя пытанні кандыдату-бургамістру. Патрабавала адказу на свае пытанні. І пыталася.

Адзін са старэйшых мужчын падняўся і прыгадаў:

— Чацвёрты артыкул Канстытуцыі абвяшчае: вярхоўная ўлада належыць народу, гэта значыць, нам, выбаршчыкам, а не нейкай групцы.

Ён атрымаў гучныя апладысменты, на што вядучая сустрэчу дырэктарка ГКЦ сказала:

— Прабачце, як вы называецеся?

Зала:

— Буууууу!

### Заява кандыдата

Перад тым як пакінуць залу сапернік Марка Назаркі зачытаў заяву: «(...) Відавочна, што нашы жыхары заслугоўваюць ацэнкі кандыдатаў таксама і ў прамой палеміцы. Я прыгадваю, што такая адбылася да першага тура, але па невядомых прычынах канкурэнт Марк Назарка не жадаў узяць у ёй удзелу. Мне вельмі шкада, але сённяшнія дэбаты для мяне і майго выбарчага камітэта непрымальныя. Я не вяду негатыўнай кампаніі, як гэта робіць мой канкурэнт Марк Назарка, які ад пачатку вядзе брудную гульню, выкарыстоўваючы паклёп, распаўсюд ілжывай інфармацыі пра мяне, выкарыстоўвае метады несумяшчальныя з мараллю, і нават парушаючы закон, выкарыстоўваючы прытым установу для выбарчага змагання. Я быў вымушаны абараняць сябе ў судзе, і выйграў дзве справы ў выбарчым рэжыме. Арганізатарам сённяшніх дэбатаў з'яўляецца падпарадкаваная бургамістру «Газета Міхалова», якая на працягу трох месяцаў рэгулярна публікавала ілжывыя артыкулы, якія дыскрэдытавалі мяне ў вачах жыхароў. Яе галоўная рэдактарка Юлія Няплох-Сітніцкая рашэннем Апеляцыйнага суда ў Беластоку ад 3 лістапада 2014 г. забавязалася змясціць на дошках аб'яў у ГКЦ і мэрыі наступную заяву: «Прашу прабачэння ў спадара Уладзіміра Кананчука за публікацыю ў кастрычніцкім нумары «Газеты Міхалова» хлуслівых інфармацый аб магчымасці здзяйснення злачынства ў час, калі ён быў войтам Міхалова, звязаных з выкарыстаннем ведаў аб ходзе трубапрavода і куплі зямлі ў раёне вёскі Бахуры». Рэдактар Юліта Няплох-Сітніцкая праігнаравала закон і па гэты дзень не выканала рашэння суда. Сённяшнія дэбаты запрапанавалі мне, калі я ўжо запланаваў свае перадвыбарчыя сходы. Гміна мне іх тармозіць. Сёння ў гэты час была запланавана сустрэча ў Новай Волі, і спрабавалі прымусіць мяне адмовіцца ад яе, не даючы для гэтай мэты вясковай святліцы. Таму мы арганізуем сустрэчу ў прыватным доме, дзе мяне ўжо чакаюць жыхары (...)».

У ходзе сустрэчы бургамістр Назарка прадбачыў м.інш, што аўтобусны прыпынак, аднак, можна перанесці, а публічнай прыбіральні ў ваколіцах адкрытага парку не ўдасца пабудаваць таму, што спатрэбіцца ў сувязі з гэтым штаты, а калі каму-небудзь захочацца, можа схадзіць у Ратушу, гасподу ці паліклініку. Прагучалі рэзкія словы ў яго адрас:

— Асноўным інструментам вашай работы з'яўляецца хлусня!

У той час выбаршчыкі ў Новай Волі, чакаючы Уладзіміра Кананчука, маглі прачытаць у яго буклеце, што падтрымку яму акалі Збігнеў Зёбра, Яраслаў Говін, падляшскі дэпутат ад ПіС Дарыюш Пянткоўскі, былы член клуба СЛД, канстытуцыяніст Яраслаў Матвяюк ці Мечыслаў Башко — найбольш сур'ёзны прэтэндэнт на пасаду падляшскага маршалка ад ПСЛ, які абяцаў падтрымаць Кананчука ў ваяводскім самаўрадзе ды ў здабыванні еўрасаюзных сродкаў. Абяцаў аказаць падтрымку Кананчуку таксама дэпутат Сейма ад ГП Аляксандр Сасна, звязаны з праваслаўным асяроддзем Беласточчыны. Кандыдат Назарка яшчэ перад другім турам выбараў падаў публічна пад сумнеў факт гэтай падтрымкі. Паўтарыў гэта ў час сустрэчы ў ГЦК. Сам дэпутат Сасна прызнаўся «Ніве»:

— Так, я аказаў такую падтрымку Кананчуку.

### Прысяга перад днём цішыні

З тлумачэння Дзяржаўнай выбарчай камісіі 25 лістапада: «Вызначэнне выбарчым камісарам парадку дня першага пасяджэння рады павінна праводзіцца пасля кансультацыі з бюро рады ўправы гміны, староства або маршалкоўскай управы. На думку Дзяржаўнай выбарчай камісіі ў парадку дня, апрача прысягі радных і войта (бургамістра, прэзідэнта горада) абранага ў першым туры, павінен апынуцца выбар старшыні рады (сейміка) і, магчыма, віцэ-старшыні (намеснікаў старшыні)».

Дзень да выбарчай цішыні перад другім турам выбараў быў для бургамістра-кандыдата асабліва заняты. Раніцай наведаў ён адзін з дамоў сацыяльнай апекі ў глыбінцы. Звычайна супрацоўнікі ўправы гміны раздаюць падарункі падапечным, толькі што ў папярэднія гады гэта рабілі якраз перад Калядамі. На 13 гадзіну бургамістр-кандыдат склікаў першае пасяджэнне Гарадской рады. Парадак дня прадугледжваў уручэнне пасведчанняў аб выбары на радных, прысягу і абранне старшыні Рады. На табліцы ў зале абрад кідаліся ў вочы друкаваныя тэксты чатырох рэзалюцый, прынятых раднымі ў мінулым тэрміне, дакладна прадстаўляючыя тое, што было сабранае ў пунктах у перадвыбарчай праграме бургамістра як дасягненне яго апошняга тэрміну паўнамоцтваў: адмена падатку на нерухомасць са студзеня гэтага года, увядзенне 50-працэнтнай субсідыі да лекаў і праграма дадатковага харчавання на 2014-2020 гг., стварэнне ў гміне Спецыяльнай эканамічнай зоны.

Незадоўга да сесіі старшыня міхалоўскай Гарадской выбарчай камісіі Андрэй Каспаровіч тлумачыў «Ніве»:

— Старшыня ДВК Стэфан Яворскі растлумачыў у сваім лісце, што першая сесія павінна адбыцца на працягу сямі дзён з моманту абвяшчэння вынікаў выбараў у Dzienniku Ustaw. Канчатковая дата правядзення першай сесіі мінае 1 снежня 2014 г. У гэты дзень адбудзецца першая сесія Ваяводскага падляшскага сейміка, Гарадской рады ў Беластоку ці Гміннай рады ў Гарадку. У Міхалове ніхто не змог сказаць, хто з выбарчым камісарам у Беластоку Багданам Лашкевічам вызначыў дату пасяджэння Гарадской рады ў Міхалове на дзень 28 лістапада ў 13.00. Ні адзін з чыноўнікаў не кансультаваў даты першай сесіі, ані парадку дня са старшынёй ГВК, ані з новаабранымі раднымі. Чаму такая спешка перад другім турам выбараў бургамістра Міхалова?!

Дадаў:

— Скліканне першай сесіі напярэдадні выбарчай цішыні перад другім турам выбараў можа паўплываць на вынік выбараў. Ці хтосьці хоча, каб паказаць сваю сілу, паказаць, хто ў хаце гаспадар?

### Таямнічае дапісванне

Яшчэ да адкрыцця сесіі ў кулуарах мэрыі (тут, насупраць кабінета бургамістра адбываецца пасяджэнні), у прысутнасці «Нівы», дайшло да гучнай спрэчкі паміж старшынёй Каспаровічам з Саколя, не хаваючым сімпатыі да Уладзіміра Кананчука, і зноў абранай раднай, солтыскай Саколя Евай Купрашэвіч, прыхільніцай Марка Назаркі. Гэта між іншым яе абвінавачваюць у масавым выдаванні пасведчанняў аб прабыванні ў Саколі новых выбаршчыкаў паміж першым і другім турамі (адпаведнае пасведчанне выдаецца мясцовым загсам). Ева Купрашэвіч:

— Прыбыло двух новых, якім я падпісала як солтыс, што яны сапраўды маюць тут сваё пастаяннае месца жыхарства. Дзе я запісала трыццаць чатырох? Гэта *pic na wodę fotomontaż*!! Напісалі ў інтэрнэце нейкія глупствы, што я перад выбарамі раздаю па 150 злотых, гарэлку і каўбасу ў Тапалянах! Не зрывала я ніякіх плакатаў, гэта вы іх рвалі ды заклейвалі! Ты з імі! Чаму ты мне гэта робіш і гэта ім дазваляеш?!

Андрэй Каспаровіч::

— Я?! Ты не дарасла, каб выконваць уладу!

Праз некаторы час. Ева Купрашэвіч:

— Я дапісала 16 чалавек. Астатніх, мабыць, яны дапісалі.

— Хто «яны»? — дапытваліся мы.

— Людзі Кананчука і Грыца.

Пасля ў адзін з перапынкаў сесіі радная-солтыска падышла да журналіста «Нівы»:

— Прашу прабачэння, яшчэ раз пералічыла: я пацвердзіла чатырнаццаць новых з правам голасу, бесперапынна населеных, і гэта было перад першым турам.

Прыслухоўваючыся ранейшаму абмену думкамі адзін з жыхароў сказаў:

— А гэты фарс працягваецца ўжо дванаццаць гадоў.

Пасля абрання старшыні Марыі Анціпюк з «Малой Айчыны» (дзесяць радных «за»), галасамі радных гэтага клуба пашырылі неспадзяваны парадак дня на выбар членаў пастаянных камісій Рады. Радныя звязаныя з камітэтам Уладзіміра Кананчука ў знак пратэсту выйшлі. Маюць падаць ваяводу заяву аб прызнанні несапраўднымі рашэнняў, прынятых нечакана. У кулуарах не хавалі свайго абурэння. Дырэктарка Комплексу школ радная Дарота Бурак:

— Абрады першай сесіі павінны быць абмежаваны толькі да парадку дня, які намечаны камісарам. Ганебным з'яўляецца тое, што сярод радных сядзеў бургамістр і прытым ім падказваў. Усе знаходзяцца пад яго велізарным ціскам.

Прысутны на сесіі Лешак Грыц:

— Калі ўводзіцца ў парадак прынясце рашэнняў, непарыўна трэба забяспечыць іх змест у пісьмовай форме.

Яшчэ ў зале пасяджэнняў, незадоўга да галасавання аб пашырэнні парадку, радны Славамір Дзевянткоўскі з камітэта падтрымкі Уладзіміра Кананчука намаўляў:

— Давайце перанясем праця гэтай сесіі. Чаму мы так спяшаемся? Давайце дачакаемся выбараў новага бургамістра, нават па маральных меркаваннях, і беручы пад увагу грамадскую думку.

Радны Яраслаў Сымко з «Малой айчыны», спаглядаючы на бургамістра Назарку:

— Нашы рашэнні не ўплываюць на выбар бургамістра жыхарамі.

У ходзе сустрэчы з жыхарамі Міхалова ў ГЦК бургамістр Назарка абвясціў:

— На свеце ёсць так, што нейкая вышэйшая сіла даводзіць да сустрэчы людзей і толькі ад іх залежыць, ці пакінуць добрае ўражанне і будзе файна, ці будуць яны скакаць сабе да глотак.

Адзін з жыхароў адказаў на гэтыя словы:

— Шкада, што вы так позна дайшлі да гэтай высновы.

30 лістапада, пры 63-працэнтнай яўцы выбаршчыкаў, бургамістрам Міхалова стаў Уладзімір Кананчук. Падтрымала яго 2125 чалавек (57,46%). Марк Назарка атрымаў 1573 галасы. Уладзімір Каначук выйграў амаль ва ўсіх камісіях, па-за Саколем, дзе атрымаў 83 галасы, столькі ж што і Марк Назарка. Рашуча перамог, між іншым, у самім Міхалове, у тым ліку на выбарчым участку ў ГЦК (адпаведна 502 да 350), у Новай Волі (187 да 96), Шымках (189 да 104) і Ялоўцы (96 да 52).

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

У другім туры выбараў войтаў, бургамістраў і прэзідэнтаў перамаглі: Беласток — прэзідэнт Тадэвуш Трускаляскі. Беластоцкі павет: Супрасль — бургамістр Радаслаў Дабравольскі, Васількаў — бургамістр Міраслаў Бяляўскі, Заблудаў — бургамістр Адам Томанэк. Гайнаўскі павет: Чаромха — войт Міхал Врублеўскі, Гайнаўка — войт Люцына Смактуновіч, Нарва — войт Андрэй Пляскові. Сямятыцкі павет: Дзядковічы — войт Мар'ян Скамароўскі, Нурэц-Станцыя — войт Пётр Яшчук, Мельнік — войт Яўген Віхоўскі, Сямятычы — войт Эдвард Красоўскі. Сакольскі павет: Дуброва-Беластоцкая — войт Рамуальд Грамацкі, Кузніца-Беластоцкая — войт Павел Міклаш, Саколка — бургамістр Ева Кулікоўская, Сухаволя — бургамістр Міхал Матыскель.



Першыя раскопкі на пабудове новага дзіцячага садка

# Пагарэльцам з Орлі патрэбная помач

У адной хвіліне страцілі цэлы дабытак жыцця. Калі вярнуліся з недалёкага Бельска, агнём была ахоплена ўся хата ўнутры. Не ўдалося нічога выратаваць. Сям'і з Орлі засталося толькі гэта, што мелі пры сабе падчас выезду. Шчасцем у трагедыі з'яўляецца тое, што адгукнулася шмат людзей неабыякавых на крыўду другога чалавека. Спадарству Тхужэўскім дапамагаюць не толькі сям'я і родная Орля, але і людзі з усёй Польшчы.

Агонь у драўляным доме сям'і Тхужэўскіх успыхнуў у панядзелак з раніцы. На шчасце на тую хвіліну нікога не было дома. Барбара і Тамаш паехалі ў Бельск, а іх двое дзяцей былі ў школе. Не паспелі вырашыць спраў, за якімі выбраліся ў горад, калі патэлефанавала маці Тамаша з жудаснай навіной.

— Маці пазваніла і кажа, што з хаты дым ідзе, — успамінае Тамаш Тхужэўскі. — Сама даведалася ад людзей, бо яна жыве ў другім канцы Орлі. Мы кінулі ўсе справы, і хутка вярнуліся назад.

На месцы былі ўжо пажарнікі і людзі з Орлі. Прычынай узгарання стала кароткае замыканне электраправодкі. Хаця звонку амаль не відаць эфектаў пажару, усярэдзіне хата выглядае трагічна.

— Усё пагарэла, — кажа Барбара Тхужэўская. — Наколькі мы маглі сабе дазволіць, куплялі да хаты новыя рэчы. Нішто непрыдатнае для карыстання. Муж яшчэ прабаваў штосьці вынесці, але гэта ўжо або папсаванае, або перапаленае.

Хату спадарства Тхужэўскія купілі шэсць гадоў раней. Узялі крэдыт, каб адрамантаваць кухню, пакоі. Нядаўна таксама памянялі вокны і зрабілі рамонт ваннага пакоя. Пасля пажару, верагодна, дом трэба будзе разбіраць і ставіць нанава. На гэта спадарства Тхужэўскія грошай не маюць. Засталіся яшчэ крэдыты, зацягнутыя на рамонт згарэлай хаты. Таму так важная падтрымка для пагарэльцаў.

У інтэрнэце працягваюцца акцыі дапамогі пакрыўджаным. Спадарству Тхужэўскім найперш памагла гміна.

— Гэта абавязак гміны, каб дапамагчы такім людзям, — кажа войт Арлянскай гміны Пятро Сэльвэсюк. — Помач з нашага



Барбара і Тамаш Тхужэўскія ў спаленай хаце



боку гэта кватэра, якая належыць гміне, а цягам года будзе домам для пагарэльцаў. Таксама я прыняў рашэнне прызначыць сям'і аднаразовую дапамогу ў памеры дзесяці тысяч злотых. Важнае, што помач з нашага боку была хуткай. Спадарства Тхужэўскія ўжо могуць ёю карыстацца.

Жыхары Орлі, якія вельмі добра ведаюць сям'ю Тхужэўскіх, таксама не застаюцца абыякавымі. 10 студзеня плануюць сарганізаваць дабрачынную вечарыну, з якой даход у цэласці будзе перададзены пакрыўджаным.

— Плануем з моладдзю тут, у Орлі, наладзіць адмысловае мерапрыемства, у час якога выступяць сябруючыя з гмінай мясцовыя калектывы, — кажа мясцовы актывіст Марк Хмялеўскі. — Думаю, што выступяць артысты, якія прадстаўляць розныя плыні культуры. Будуць аўкцыёны кніжак, напрыклад, Пятра Нестаровіча. Ужо сёння ўсіх запрашаем.

Такога водгуку Тхужэўскія не чакалі. Дзякуюць за кожную залатоўку ці нават добрае слова.

— Усё цяпер для нас лічыцца, — кажа спадарыня Барбара. — З цэлага сэрца дзякуем усім, якія нас падтрымліваюць.

Пасля трагічнага здарэння пачынаюць верыць, што дзякуючы помачы людзей удасца ім усё пачаць яшчэ раз. Нанава.

Кожны, хто хацеў бы дапамагчы сям'і Тхужэўскіх, можа пералічыць ахвяраванні на рахунак Кааператыўнага банка ў Бельску-Падляшскім № 08 8061 0003 0018 1406 3000 0010.

Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ

# Як гулялі пенсіянеры на Запустах





23 лістапада г.г. незабыўную забаву мелі пенсіянеры з Нараўчанскай гміны (Гайнаўскі павет) перад Запустамі ў прыгожа адрамантаванай святліцы ў Старым Ляўкове. На вечарыну прыехалі яны з Нараўкі, Альхоўкі, Ахрымоў, Новага Ляўкова і Старога Ляўкова, Масева, Пляньты і Скупава. Аўтобус даў войт Нараўчанскай гміны. Была гэта дзявятая сустрэча пенсіянераў на працягу 2014 года.

Вечарыну вяла Ядвіга Карпюк — старшыня Раённага праўлення Польскага саюза пенсіянераў і рэнтыстаў у Нараўцы. Увесь вечар вельмі прыемна і зладжана ігралі і спявалі прыгожыя беларускія і польскія песні Пётр Скепка і Анна Карэтка. Арганізатарка вяла розныя конкурсы, у якіх усе ахвотна ўдзельнічалі, ды фантавую латарэю. У конкурсе здымання найдаўжэйшай скуркі з яблыка найлепшай была Зіна Раманчук.

У танцавальным конкурсе ўдзельнічала дзевяць пар. Пераможцамі сталі Вольга Максімюк і Міхал Харкевіч ды Крыстына і Рышард Паскробка (занялі яны раўнапраўнае першае месца), а таксама Зіна і Яўген Рэенты ды Валянціна Пацэвіч і Антон Конкель (занялі раўнапраўнае другое месца).

Вялікім зацікаўленнем карыстаўся конкурс „Мікрафон для ўсіх". Удзельнічалі ў ім Валянціна Галабурда з Альхоўкі, Грыша Пякарскі, Міхал Пякарскі і Юрый Равінскі са Старога Ляўкова ды Зіна Пацэвіч і Ядвіга Карпюк з Нараўкі.

Былі таксама варажбы. Паваражыла сабе шаснаццаць чалавек. Весела і прыемна было пабываць у кампаніі. Але вечарына наблізілася да канца і прыйшла пара вяртацца дадому. Цяпер яна жыве ў памяці нараўчанскіх пенсіянераў. Нагадваюць ім пра яе зробленыя падчас сустрэчы фотаздымкі.

Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

# „Бежанства" ў Беластоку

Для жыхароў Падляшша самай трагічнай падзеяй ХХ стагоддзя было „бежанства", аднак сама падзея яшчэ не дачакалася належнай увагі і асвятлення. Памяць і веды пра трагічныя масавыя ўцёкі, якія датычылі больш за мільён жыхароў і дзе кожны трэці загінуў, мелі ў асноўным характар вуснага пераказу. Пра бежанства ў 1960-1980-х гадах гаварылі ўсе нашыя старажылы на вясковых лавачках. Час ад часу такія ўспаміны з'яўляліся на старонках „Нівы". Аднак сапраўдная, мэтанакіраваная даследчыцкая праца пачалася ў 90-х гадах ХХ стагоддзя, калі журналісты „Нівы" пайшлі ў народ і запісалі ўспаміны яшчэ жывых відавочцаў. Плёнам працы ніўскіх журналістаў і карэспандэнтаў стала кніга „Бежанства 1915 года", у якой апынулася больш за 150 успамінаў, запісаных у 1958-2000 гадах, практычна з усёй Беласточчыны. Час ад часу тэму „бежанства" падымае Беларускае гістарычнае таварыства...

Новае святло на падзею праліла журналістка Анэта Прымака, заснавальніца сайта http://biezenstwo.pl/. Анэта Прымака родам з калёніі Кнышэвічы на Сакольшчыне, і, як сама адзначыла, на яе зацікаўленне тэмай паўплывалі ўспаміны роднай бабулі. Менавіта 24 лістапада г.г. журналістка прыехала на запрашэнне Універсітэта праваслаўнай культуры з дакладам „Бежанства



Фота Міры ЛУКШЫ

1915, незвычайная гісторыя звычайных людзей". Тэмай сустрэчы пацікавілася шматлікая аўдыторыя, людзі розных прафесій і ўсіх узростаў. Сам даклад, хаця працягваўся каля дзвюх гадзін, трымаў слухачоў у святой засяроджанасці і жывым зацікаўленні. На гэта несумненна паўплывала вобразнасць, эмацыйнасць і гуманнасць пераказу. Новай якасцю пераказу былі архіўныя здымкі, на якіх зафіксаваны звычайны чалавечы страх, безабароннасць, а таксама кашмар вайны з пажарамі, эпідэміямі, голадам і галечай. Здаецца, невыпадкова журналістка засяродзілася на пакутах жанчын і дзяцей. Гэта на іх галовы і плечы абапавалася адказнасць за выжыванне і ахову жыцця. Звычайна забываем пра сілу і заслугі слабога полу, аддаючы перавагу мужчынам. У час „бежанства" многія мужчыны ў роскідзе сіл апынуліся на фронце, тады цэлы закалот і клопат перасялення датычыў іх жонак. Якраз бежанскія ўспаміны адкрываюць жаночую стойкасць, гарт духу і бязмежную веру ў шчаслівы фінал. Новай якасцю даклада было пашыранае вывучэнне з'явы „бежанства" з улікам жыхароў Ломжынскага і Холмскага паветаў, ды яго міжнацыянальны і міжканфесійны характар ды гістарычны кантэкст канца Расейскай імперыі.

— Мае доследы і падарожжы паслужаць матэрыялам для гістарычнага рэпартажу, які пабачыць свет у 2015 годзе, — патлумачыла Анэта Прымака, за што атрымала бурныя апладысменты.

Мяне асабіста натхніў адзін момант, які датычыць інтэлектуальнай камунікацыі з „нашымі людзьмі". Паколькі ўся прэзентацыя Анэты Прымакі вялася на польскай мове, у тым ліку на польскай мове чыталіся ўспаміны з „Нівы" (дакладчыца называла крыніцы), для прыгнятальнай большасці публікі Універсітэта праваслаўнай культуры тэма „бежанства" здалася ў сэнсе літаратурнага запісу навізной і адкрыццём. Таму варта рабіць усё, каб цягам 2015 года разам з узноўленым выданнем кнігі „Бежанства 1915 года" на беларускай мове, выпусціць яе ў перакладзе на польскую мову (нават на грамадскія ахвяраванні). Справа ў тым, што ўжо нешматлікія нашчадкі герояў ніўскіх успамінаў ведаюць мову продкаў, а сама тэма, як паказаў вобразны і эмацыйны даклад Анэты Прымакі, усіх нас жыва хвалюе і цікавіць.

Ганна КАНДРАЦЮК

# СПАЧУВАННІ

Яну і Аляксандру **МАКСІМЮКАМ** і іх родным з прычыны напаткаўшага іх гора **смерці мамы Вольгі** словы глыбокага спачування выказваюць

рэдакцыя „Нівы", Радыё Рацыя і сябры



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Францыя! Парыж!



Нам, вучням Гімназіі з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы разам з гімназістамі Публічнай гімназіі № 1 у Сямятычах проста пашанцавала! Чаму? Таму, што ў лістападзе паехалі мы на шасцідзённую экскурсію ў Францыю. Усіх удзельнікаў было ажно каля пяцідзесяці. Выезд аказаўся вельмі ўдалым. Мы маглі пабачыць шмат цікавых і славутых месцаў гэтай чароўнай краіны, пра якія экскурсавод распавёў нам многа займальных гісторый.

Першага дня захапляліся цудоўнай панарамай Парыжа, стоячы амаль на самай вяршыні — на панарамнай тэрасе (вышынёю ў 57 м над зямлёй) Эйфелевай вежы. Парыж — прыгожы горад з багатай гісторыяй! Пасля наведалі яшчэ іншыя цікавыя помнікі. Аглядалі пышны Версальскі палац, які паўставаў пад кіраўніцтвам Людовіка XIV з 1661 года, пабывалі на плошчы мастакоў Манмартра. У Луўры мы мелі нагоду пабачыць партрэт



Моны Лізы, які ў пачатку XVI стагоддзя намаляваў знакаміты мастак італьянскага Адраджэння Леанарда да Вінчы. У самым цэнтры Парыжа свае багатыя парогі адкрыў для нас, наведвальнікаў, Кафедральны сабор Нотр-Дам. Каб поўнасцю апісаць яго прыгажосць, проста не хапае слоў! Чарговым велічным помнікам французскай сталіцы аказалася Трыумфальная арка — манумент, які стаіць на плошчы Шарля дэ Голя ў Парыжы. Ён размешчаны на заходняй ускраіне Елісейскіх Палёў, якія таксама давялося нам паглядзець. Апрача гэтага ўсяго мы плавалі судном па Сене — парыжскай рацэ. Апошнім месцам наведвання быў Дыснэйлэнд — там то і мы добра пагулялі!

На экскурсіі нам вельмі спадабалася і Францыя, і французская мова, якой, мы цяпер перакананы, варта вучыцца! На ёй жа гавораць 120 мільёнаў насельніцтва свету на пяці кантынентах! Добра было б ведаць французскую мову, але „найперш трэба ведаць сваю”, родную, як пісаў у XIX стагоддзі Францішак Багушэвіч.

**Вучні I „а” класа Белгімназіі ў Гайнаўцы**

# Індзейскі запавет жыхарам Месяца!

Ці ведаеце, што славуты палёт на Месяц 20 ліпеня 1969 года адбыўся, між іншым, дзякуючы беларусу Барысу Кіту. Прафесар Кіт — вынаходца касмічнага паліва, якое падняло з зямлі касмічны карабель „Апалон 11”.

Сам вучоны не адабраў моднага ў наш час касмічнага турызму. У адным інтэрв'ю, якое даў аўтарцы гэтага допісу, гаварыў, што ён сам не збіраецца ляцець на Месяц. Чаму? Барыс Кіт адказаў у найфайнейшы чалавечы спосаб:

— *Бо там няма да каго ляцець!*

Першаму палёту чалавека на Месяц спадарожнічае індзейская, не менш людская і дасціпная, легенда. Яшчэ некалькі месяцаў да экспедыцыі касманаўты Ніл Армстранг і Баз Олдрын трэніравалі на бязлюднай пустыні за захадзе ЗША. Тэрыторыя належала індзейскім плямёнам. У час адных заняткаў касманаўты наткнуліся на тубыльца. Стары індзеец спытаў: „А што вы тут робіце?”. Тыя патлумачылі, што прымаюць удзел у навуковым праекце і неўзабаве паляцяць на Месяц. Калі стары пачуў гэтыя словы, спачатку ён памаўчаў, а пасля спытаўся.

— А ці дапаможаце мне аформіць адну справу?

— Што за справа? — спыталі касманаўты.

— Мае аднапляменцы вераць, што на Месяцы пражываюць святыя духі. Я падумаў, каб за вашым пасрэдніцтвам перадаць ім важную інфармацыю ад майго народа.

— Якая гэта інфармацыя? — спыталі тыя.

Стары індзеец прадэкламаваў незразумелыя словы на мове свайго народа, ды пасля гэтага папрасіў касманаўтаў, каб акуратна завучылі іх на памяць.

— А што гэта значыць? — цікавіліся касманаўты.

— Я, на жаль, не магу вам гэтага рассакрэціць, бо тут закадаваная тайна зразумелая адно для майго народа і святых духаў, што пражываюць на Месяцы.

Калі касманаўты вярнуліся ў сваю базу, яны пачалі шукаць перакладчыка, які б ведаў мову старога індзейца. Пасля нейкага часу знайшлі такога ды папрасілі зрабіць пераклад запавету. Калі перакладчык пачуў словы, ён заліўся гучным рогатам. Пасля, калі ўжо супакоіўся, патлумачыў словы старога індзейца. Запавет гучаў звычайна і вельмі па-людску:

— Не верце ні ў адно слова гэтых людзей. Яны прыляцелі на Месяц, каб захапіць вашу зямлю!

**Ганна КАНДРАЦЮК**

## Загадкі з роднай хаткі

# Увага, конкурс!!! (№ 49-14)

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў «Зорку» да 21 снежня, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.**
Нарадзілась у лясочку,
Сярод сосен на цянёчку.
Я стаю цяпер у зале,
Мяне дзеці прыбіралі...
Заўтра тут, як і што год,
заспяваем карагод.
Ё...

**2.**
Белым пухам замяло
І палеткі, і сяло...
Мост праз рэчку хутка ляжа.
А што гэта — хто адкажа?
З...

**3.**
Малы малышак
Зваліўся з вышак,
Не так пабіўся,
Як шапачкі забыўся.
А...

Адказ на загадкі № 45-14: певень, арабіна, апенькі.

У сувязі з ускладненямі на пошце, якая са спазненнем даручае нам вашы пісьмы, яшчэ назначаем узнагароды за конкурс з мінулага тыдня. Кампакт-дыскі з беларускай музыкай выйгралі Кая Стоцкая і Эмілька Казлоўская з Міхалова. Віншуем!

# Найбольшая карысць дзецям!

У нашай школе, Комплексе школ у Гарадку, з'явіўся незвычайны госць — Іна Зуева з Беларусі. Спадарыня Іна валодае англійскай, беларускай і рускай мовамі. На працягу года будзе яна жыць у Гарадку, дапамагаць у школе і вывучаць польскую мову. Пані Іна прыехала ў Польшчу дзякуючы праекту „Эрасмус", напісанага арганізацыяй Анавой. Спадарыня Іна Зуева не адна дапамагае ў працы нашай школы. Па гэтым жа праекце трапіла да нас і спадарыня Андрэа Гарсія Соаге з Іспаніі. Яны не толькі дапамагаюць настаўнікам, але самі знаёмяцца з культурай і мовай Польшчы. Найбольшая ад праекта карысць дзецям. Дзеці ў святліцы захапляюцца новымі іншамоўнымі панямі. Моладзь з ахвотаю прыходзіць на заняткі, на якіх можна шмат даведацца пра іншыя краіны і культуры. Іна і Андрэа галоўным чынам ходзяць на заняткі беларускай, англійскай і рускай моў. Удзельнічаюць таксама ў іншых уроках.

Мы запыталі спадарыню Іну ці хацела б адказаць на некалькі пытанняў. Прачытайце інтэрв'ю.

***— Ці Вы любіце чытаць? Калі так, дык якія кніжкі?***

— Так, вельмі люблю чытаць і не ўяўляю свайго жыцця без кніжак, найбольш падабаюцца псіхалагічныя і гістарычныя кніжкі.

***— Якое Вашае хобі?***

— Люблю рабіць паштоўкі і арыгамі. Таксама займаюся рознымі відамі спорту.

***— Як Вам падабаецца Польшча? Што Вас здзіўляе?***

— Польшча вельмі мне падабаецца. Яна вельмі падобная да Беларусі, але найбольш здзіўляе польская мова і прысутнасць у ёй насавых гукаў, такіх як «ą» ці «ę».

***— Які быў найважнейшы момант у Вашым жыцці?***

— Найважнейшы момант у маім жыцці адбыўся, калі я запоўніла апытальнік да ўдзелу ў праекце і папала ў Гарадок.

***— Дзе Вы нарадзіліся? У якой мясцовасці?***

— Нарадзілася я ў Беларусі, у Мінску, пражыла там дваццаць шэсць гадоў.

***— Якія Вы любіце паравіны года?***

— Найбольш люблю пачатак лістапада і канец вясны ў маі.

***— Якіх жывёл Вы любіце?***

— Катоў люблю за іх грацыю, а коней — за іх свабодалюбства.

***— Дзе Вы праводзіце канікулы?***

— Часцей за ўсё на моры, ці проста ў цёплым месцы пад сонцам.

***— Па чым Вы тужыце найбольш?***

— Па цёплых словах і абдымках.

***— Ці Вы вучыліся беларускай мове?***

— Вывучала мову ў школе і таксама ва ўніверсітэце, але толькі першы год.

***— Што Вы змянілі б у сваім жыцці?***

— Усё пакінула б так, як ёсць.

***— Ці польская мова для Вас цяжкая?***

— Для мяне не, бо яна вельмі падобная на беларускую і рускую мовы. Але напачатку цяжка было вымаўляць шмат зычных у польскіх словах.

***— Як Вы сталі ўдзельніцай праекта?***

— Я вельмі хацела б змяніць сваё жыццё і, аднойчы, калі глядзела навіны ў інтэрнэце, знайшла аб'яву аб праекце ў Гарадку і вырашыла прыняць у ім удзел.

***— Што Вам найбольш падабалася ў Варшаве?***

— Найбольш падабаўся Палац навукі і культуры. Ён мне вельмі прыпамінае маю радзіму.

У нашай школе незвычайныя госці. Мы, вучні, карыстаемся сапраўдным скарбам — жывой мовай. Так найхутчэй навучымся розных моў. Спадарыні Іна і Андрэа вельмі цікава вядуць заняткі і ахвотна адказваюць на нашыя пытанні.

**Аляксандра Яроцкая**
і **Эліза Матус**
I «б» клас Гімназіі
ў Гарадку

мал. Патрыцыі Чамярыс

# Мінарэт і бусел

*(узбекская казка)*

У слаўным горадзе Бухары стаіць высокі мінарэт. Ён вельмі стары. Яму тысяча гадоў.

На версе знаходзіцца вялікае гняздо, у якім жыве бусел. Кожнай восені бусел адлятае ў цёплыя краіны і кожнай вясной вяртаецца ў сваё гняздо-буслянку.

Аднойчы мінарэт кажа буслу:

— Паслухай, бусел, ты ўжо шмат гадоў жывеш у мяне. Кожную восень ты адлятаеш у цёплыя краіны і кожную вясну вяртаешся зноў да мяне. Скажы, а чаму ты ніколі не прынясеш мне якога падарунку?

— А які табе падарунак трэба? — спытаўся бусел.

— Прынясі мне скураныя боты.

— Добра, — адказаў бусел.

Надышла восень. Бусел, разам з іншымі буслямі, адляцеў у свой вырай. А вясной зноў прыляцеў у Бухару. Прайшло некалькі дзён. Бусел нічога не кажа мінарэту пра абяцаны падарунак. Маўчыць і мінарэт. Урэшце мінарэт пытае:

— Ну добра, бусел, а дзе твой падарунак?

— Я прынёс табе скураныя боты і паставіў іх на зямлю, ля парога. Відаць, ты дзесь адышоў і нехта забраў сабе боты.

— Што ты пляцеш, бусел? Ты ж добра ведаеш, што я тысячу гадоў стаю на адным месцы і нікуды ні на крок не адыходжу! — усхваляваўся мінарэт.

— Калі ты нікуды не ходзіш, дык навошта табе боты? — адказаў бусел.

(пераклад з рускай мовы **Ганны КАНДРАЦЮК**)

** Мінарэт — вежа ля мячэці, з якой клічуць вернікаў на малітву.*

# Вершы Віктара Шведа

## Не купіў свежага хлеба

Мама паслала Адама
У булачную краму.
— Да снедання нам трэба
Буханку свежага хлеба.

Спытаў ён паводле патрэб:
— Ці ёсць сённяшні хлеб?
Сказалі яму: — Не марудзіць!
Хлеб сённяшні заўтра будзе.

## Што бачыш?

Настаўнік спытаў Славоя:
— Што бачыш над галавою?
Вучань адказаў як трэба:
— Бачу блакітнае неба.

— Калі неба дажджом плача
Што, скажы, тады бачыш?
— Вось тады я засмучоны
Бачу толькі парасоны.

## Дамашні волат

Настаўнік ў школе
Пытае Сашу:
— Ці ёсць нейкі волат
У сямейцы вашай?

— Бабуля старэнька
Такой асобай.
Яна ж усенька
І за ўсіх робіць.

## Не ўсё купіш за грошы

— Калі маеш грошы
Будзе свет харошы.
За грошы кожны
Усё купіць можна.

— Не маеш рацыі
Знаток адукацыі.
Не купіш, шаноўны,
Вернасці, здароў'я.

# Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 45:**

Адам, парасон, так, ар, кола, алёс, алень, лісце, лістапад, як, арка. Порт, лік, ара, міс, дар, маца, мох, лепш, Канада, столь, ало, як, касярка.

Узнагароды, аўтаручкі з патронамі, выйгралі **Мальвіна Маркевіч**, **Марта Нічыпарук** з Бельска-Падляшскага, **Дыяна Хіліманюк**, **Бартэк Чамярыс** з Нарвы, **Оля Пугацэвіч** з Беластока, **Міхал Куклік**, **Мартына Ігнатовіч** з Бабікаў, **Наталля Алексіюк** з Міхалова, **Марыюш Красько** з Арэшкава, **Алівія Кузьміцкая** з Шудзялава. Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Wiąz | | Sala | Prze-wodnik | Stróż / Aster | | | | | |
| | | Pałac | | Mińsk | | Dolar | | | Angina | |
| | Jak / Pomidor | | | | | | | | Bat | |
| Korytarz | | | | | | | | Pi | | |
| | Dom / Łan | | | | Sma-kosz | | | | | |
| | Mocarz | | Staż | | | | | Ha! | | |
| | | | | | | | Bierz | | | |

# Сакрат Яновіч ва ўніверсітэце (2)

**— Як польскі беларус я магу сказаць, што веліч Сакрата Яновіча вынікае не з таго, што ён напісаў, а з таго, чаго не напісаў. Для нас, польскіх беларусаў, яна таксама выяўляецца ў тым, што ў вельмі вялікай ступені ён нас проста стварыў. Мы, пакаленне, якое нарадзілася на пераломе 50-х і 60-х гадоў, з'яўляемся прадуктам Сакрата Яновіча, не кажучы ўжо пра пакаленне студэнтаў 80-х гадоў, якое цягнулася паломніцтвамі да яго, і які быў для нас свайго роду гуру, настаўнікам, у той час бацькам і старэйшым калегам, — сказаў беларускі пісьменнік, журналіст, грамадскі дзеяч Міхал Андрасюк падчас дэбатаў у рамках міжкультурнага сімпозіума «Сакрат Яновіч. Пісьменнік трансгранічны», арганізаванага ва Універсітэце ў Беластоку. У ім прынялі ўдзел палякі і беларусы, разважаючыя аб памерлым пісьменніку з Крынак з розных пунктаў гледжання, у тым ліку ўніверсітэцкія знатакі літаратуры, а таксама яго нявестка і ўнучка.**

Як мы пісалі, на мінулым тыдні ў дэталёвай справаздачы з сімпозіума, з дакладамі пра Сакрата Яновіча выступілі, галоўным чынам, даследчыкі літаратуры. Гэта было свайго роду ўвядзенне да прысвечанай яму кнігі, якая намаганням Інстытута польскай філалогіі і Кафедры беларускай культуры павінна выйсці да канца года. Сумадэратарка дыскусіі праф. Данута Завадзкая з Інстытута польскай філалогіі УуБ засярodзіла ўвагу на гістарычнай прозе героя сімпозіума, прысвячаючы шмат месца кнігам «Białoruś, Białoruś» і «Сярэбраны яздок». Ужо на пачатку даклада сказала:

— Сакрат Яновіч уносіць у польскі дыспут сваю долю — з рэгіянальнай перспектывы з'яўляецца яна вельмі важнай — і немагчыма яе абмінуць, напрыклад, для даследчыкаў польска-беларускіх культурных сувязей, літаратурных вобразаў ПНР, сведчанняў пасляваенных сацыяльных трансфармацый, праблем культурных парганіччаў, сялянскай плыні, міграцыі, дыспутаў памяці, жанравых пераўтварэнняў прозы пасля 1945 г. (...). У аснове літаратуры празаіка з Крынак ляжыць сітуацыя шматбаковай і каварнай залежнасці ад польскага аповеду.

Пасля аналізавала:

— Частку сваёй гістарычнай прозы Яновіч непасрэдна прызнаваў легендаі міфатворчай «вынайдзенай традыцыяй».

Спасылаючыся на «Białoruś, Białoruś», м.інш. даказвала:

— З-за яе палемічнага характару ўдалося Яновічу не так здабыць месца для гісторыі беларусаў у польскім гістарычным дыспуце, як падарваць манапалісцкую і назаўсёды гатовую карціну нашага мінулага. Чытач меў права атрымаць уражанне, што мінулае яшчэ не прадвызначанае і фармуецца на яго вачах, што адных напаўняла аптымізмам, іншых трывожыла. «Беларусь, Беларусь» таксама прынесла іншы эфект, састарыла нейкі станоўчы стэрэатып Беларусі, якога Яновіч, здаецца, не любіў.

Праф. Іаланта Штахельская, таксама з Інстытута польскай філалогіі Універсітэта ў Беластоку ў сваім дакладзе, поўным асабістых зваротаў, успамінала пра моўную ідэнтычнасць героя сімпозіума, спасылаючыся таксама на шэраг іншых кантэкстаў ягонай творчасці і жыцця:

— Ён нарадзіўся зарана, лёс не шкадаваў яму перажыванняў, якія вялікая частка нашага грамадства схавала глыбока ў персанальнай або сямейнай памяці, не жадаючы вяртацца да яе, саромеючыся сваіх каранёў, замазваючы траўматычныя гісторыі пасляваеннай Польшчы, у тым ліку эпізод вызвалення. Адным з самых важных урокаў, які абнародаваў і які для многіх яго суайчыннікаў стварыў нейкую мадэль паводзін, быў досвед вяртання сябе, або — як трапна вызначае Рох Суліма — абуджэння радаводу. Для Яновіча гэты працэс цесна звязаны з вяртаннем мовы (...). Сакрат Яновіч, верагодна, не пакрыўдзіўся, калі б мы пашукалі аналогіі паміж аднаўленнем ім яго роднай мовы і пошукамі радзімы. Можна сказаць, вернуты яму ідыём роднай мовы ўпэўніў яго ў неабходнасці займення радзімы і нацыі як уяўленай супольнасці, звязанай культурай і лёсам. Мова, лёс, культура здаюцца быць асноўнымі катэгорыямі яго своеасаблівай філасофіі беларушчыны.



■ Трэцяя і чацвёртая злева нявестка Яновіча Барбара Суліма-Яновіч і ўнучка Аляксандра

Даказвала:

— У Яновіча было сваё бачанне Беларусі, і паколькі быў ён рэалістам і разумеў, што гісторыі і цывілізацыі немагчыма адвярнуць, не адчуваў рэвізіянісцкіх схільнасцей, з якіх вынікала б неабходнасць якіх-небудзь адмысловых рэвіндыкацый. Затое дамагаўся ўсведамлення людзям іх мінулага, хацеў даць ім, калі не падставу для гонару, па меншай меры, одум (...). Здзіўляе ў яго пісьменніцкай працы перакананасць ва ўнікальнай цывілізацыйнай ролі гэтага абшару (г.зв. Беластоцкага краю — М. Х.) як месца перасячэння многіх культур і моў, хоць ён прызнаваўся, што сённяшні абшар Падляшша гэта ледзь частка тэрыторыі даўняй Беларусі (...). Ён шукаў яе адметнасці, асабліва яе лёсу.

Дадала:

— Іераміевы слёзы Яновіча, наогул кажучы, датычылі, перш за ўсё таго, што вызначаецца канцом сялянскай культуры.

Прафесар прызналася, што знакамітыя «сакраткі», то-бок, яго празаічныя мініяцюры, калі іх упершыню чытала даўно таму, не прамовілі да яе:

— Сёння я гляджу на гэта з іншага боку, хоць прызнаюся, трэба было да гэтага даспець і ўважліва ўчытацца ў Сакратава пісанне. Іншая справа, што яно само пераtваралася, узбагачаючыся пасля многіх гадоў у кантэксты, якія разбудоўвалі ў яго любімых мікрааповедах роздум, які спасылаўся на сучасны дыспут гуманітарных навук.

Амаль у канцы падкрэсліла:

— Сакрат Яновіч, напэўна, не быў стэрэатыпным, таму з упэўненасцю скажу, што можна не пагадзіцца з ім, але чытанне яго мініяцюр ці эсэ ўзбагачае наша мысленне аб нас саміх, таму што смела выходзяць па-за этнічны партыкулярызм.

У другой частцы сімпозіума адбылося абмеркаванне, папярэджанае паказам фільма Тамаша Вішнеўскага «Сакрат Яновіч. Пісьменнік. Мысліцель. Філосаф». Пачало яго выступленне Міхала Андрасюка:

— У маім выпадку, як пісьменніка, Сакрат Яновіч адыграў вырашальную ролю. Я спрабаваў свае сілы ў літаратуры як падлетак і часць вершаў, якія я тады напісаў, нейкім спосабам, як я быў цалкам дарослым, трапіла да Сакрата Яновіча ў «Ніву». Гэта было дзесьці ў пачатку 1990-х гадоў, калі я ўжо дзесяць гадоў не напісаў нічога (...). Мы ведалі адзін аднаго па перапісцы. Упершыню сустрэліся ў сядзібе адной кампаніі ў Бельску-Падляшскім падчас прэзентацыі тады яго самай новай кнігі «Доўгая сьмерць Крынак».

Актрыса і рэжысёр Іаанна Стэльмашук-Троц, пастаноўшчыца Яновічавай камедыі «Не пашанцавала», зрэалізаванай з беларускімі ліцэістамі ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы зараз пасля смерці пісьменніка:

— Гэта была задума, каб спектаклем падзякаваць Сакрату Яновічу за тое, што ён ёсць. Я ведала, што я, як акцёрка, замаладая, каб зрабіць нешта на аснове яго твораў, таму што трэба да іх дарасці, атрымаць некаторую адлегласць. Ягоная творчасць больш кінематаграфічная.

Гродзенскі паэт Анатоль Брусевіч:

— Так склалася, што гродзенская літаратура, навука, ды і наогул жыццё, моцна адрозніваюцца ад астатніх у Беларусі. Цікава, што гэты востраў з'яўляецца вялікім, у ім знаходзіцца і Беласточчына. Гэта адна культура і адзін менталітэт, і адна літаратура. Таму Сакрат Яновіч быў вядомы як творца і заўсёды быў блізкім таксама для гродзенцаў. У Беларусі першым з'явіўся «Сярэбраны яздок», а затым «Сцяна», а потым «Самасей». На жаль, яны выйшлі ў вельмі нізкіх тыражах, напрыклад «Сярэбраны яздок» ледзь у 25 тысячах. Сёння гэта даволі добры тыраж, але ў 1988 годзе ён быў мізэрным, калі кнігі выходзілі ў 50-60 тысяч асобнікаў і больш. Мінскія выдаўцы не разумелі, якой постаццю з'яўляецца Сакрат Яновіч, так як і цяпер не разумеюць якую ўнікальную, адрозную літаратуру маюць за межамі Мінска, побач — у Гродзеншчыне ці Беласточчыне.

Ён запрапанаваў, каб перш за ўсё цяперашнім часам Сакрата Яновіча зрабіць модным пісьменнікам.

Юры Хмялеўскі, на працягу многіх гадоў — як назваў сябе падчас сімпозіума — сакратар Сакрата Яновіча, галоўны рэдактар штомесячніка «Czasopis», сузаснавальнік Асацыяцыі (цяпер Фонду) «Villa Sokrates»:

— Сакрат Яновіч сваёй творчасцю заўсёды мяне інспіраваў і надалей інспіруе да мыслення. Ён навучыў мяне, каб імкнуцца да дасканаласці ў валоданні словам і выконванні таго, што чалавек робіць. Вядома, гэта ніколі не ўдасца, але памятаю, як сказаў: «Юрка, помні, трэба імкнуцца да перфекцыі». А пісьменнікаў натхняў да таго, каб ствараць сапраўдную літаратуру, заўсёды адрозніваў літаратуру ад публіцыстыкі. Паўтараў, што літаратура тады праўдзівая, калі дазваляе таксама на эстэтычныя пачуцці, а не толькі на пазнавальныя, і не толькі для забаўкі.

Літаратуразнаўца праф. Дарыюш Кулеша з Інстытута польскай філалогіі УуБ згадзіўся з тэзісам Міхала Андрасюка:

— Гэтая творчасць звышлітаратурная. Найважнейшае тое, чаго ён не напісаў, факт, што ствараў. І калі гаворка ідзе пра Сакрата Яновіча і творчы працэс, гаворыцца проста аб беларушчыне. Ён гаварыў дэманстратыўна, так супраць усіх, супраць сваім: беларусы мяне не цікавяць, мяне цікавіць беларуская культура, таму што яна вечная. Калі я не магу даць людзям пачуцця ідэнтычнасці, таму што яны ад гэтага абараняюцца па розных гістарычных, сацыялагічных, псіхалагічных прычынах, я дам ім тое, што з'яўляецца больш трывалым, дам ім культуру, на якую заўсёды будзе можна спаслацца, да якой будзе можна звярнуцца, каб ствараць сваю ідэнтычнасць.

Пераконваў беластоцкае акадэмічнае асяроддзе:

— Самы просты спосаб быў бы «выкарыстоўваць» Сакрата Яновіча для дыялогу неабходнага тут, на Падляшшы, публікуючы крытычнае двухмоўнае (польска-беларускае) выданне яго твораў. Гэта абшар, дзе дыялог узнікае натуральна. Бясспрэчна, лепш было б спярша вызначыць самыя істотныя праблемы: як мы тут, на Падляшшы, не ўмеем з сабою быць.

Праф. Іаанна Штахельская:

— Універсітэт у сувязі з такімі постацямі, як Сакрат Яновіч, павінен выконваць перш за ўсё адукацыйную ролю. І гэта пачатак вялікай працы, на працягу якой мы можам перапрацаваць свае сумленні, поўныя розных він, він нашых бацькоў, шэраг занядбанняў, напрыклад, няўмеласць размовы пра нашу гісторыю, якая аж кішыць аб балючых пытанняў, пра якія ўспамінаў Сакрат Яновіч.

У канцы дэбатаў Міхал Андрасюк прыкмеціў:

— Вось што яшчэ я падгледзеў у Сакрата, калі ён вярнуўся з Беластока ў Крынкі і што сапраўды інспіруе мяне: гэта каштоўнасць свайго месца на зямлі. Як яго знайсці, але, як стварыць вакол сябе ўласны кавалак свету. Цяжка функцыянаваць у літаратуры, не адчуваючы сувязі з канкрэтным месцам і людзьмі.

Юры Хмялеўскі падкрэсліў неабходнасць стварэння ў Крынках у доме Сакрата Яновіча (у цяперашні час там мае сядзібу Фонд «Віла Сакрата»), музея пісьменніка і напісання поўнай яго біяграфіі на польскай мове.

Праф. Дарыюш Кулеша:

— Для мяне завяшчанне Сакрата Яновіча гэта для нас шанц для дыялогу. Гэта ёсць спазнанне літаратуры, якога не ўдасца зачыніць ані ва ўніверсітэце, ані ў беларушчыне ці ў пальшчызне, ані ў транспамежнасці, а якраз у спазнанні дыялогу, якога мы не ўмеем весці, і якога на самой справе мы не вядзем, а які неабходны не толькі для таго, каб творчасць магла існаваць, але каб мы маглі быць тут са свядомасцю месца, дзе пражываем ці то ад вякоў, ці ад некалькіх гадоў. Гэтае спазнаванне тут (у ходзе сімпозіума і дэбатаў — М. Х.) было шанцам для дыялогу, якога мы яшчэ не выкарысталі.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Асенні краявід

**У марозны восеньскі ранак жвіроўкі, што вядуць ад чыгуначнага прыпынку Чупрынова ў напрамку Кундзіна, здаюцца быць прысыпаны не толькі срэбным марозным гарнірам ды залацістым лістоўем, абрамлены маладой смарагдавай саснінай, але і напоўненыя тым асаблівым водарам, які напаўняе душу касмічнай радасцю. Жарснае змаганне сонечных прамянёў з інтымнасцю прыроды прадвяшчае чарговы яе ўздым пасля непрацяглага перапынку, быццам рытмічнае дыханне, быццам рытмічную вагітнасць. Настрой супадае са славутымі інвакацыямі родных класікаў да роднага кута, да гаючай душу Літвы...**






Між лапікамі лесу, поля і паш жвіроўка заводзіць мяне між выразна выразаныя на фоне світанкавага неба контуры вясковых будынкаў. Іх больш. Вітае мяне брэх дварняжных сабак, якія са сваіх абгароджаных некалі панадворкаў пранікаюць навонкі сваіх тэрыторый цераз устаноўленыя непаседлівым Часам праёмы. Вёска здаецца знаходзіцца на нейкім не надта прасунутым этапе стварэння свету, дзе сабакі ўжо ёсць, але няма яшчэ чалавека. З сабакамі прыходзіцца мне мець дачыненне ў адзіночку. Дварняжкі ведаюць, аднак, устаноўленую прыродай іерархію і, падмяўшы хвасты, адступаюць у свае абведзеныя старымі платамі крэпасці. Неўзабаве на адным з панадворкаў паказваецца і вяршыня заканапіснага тварэння ў выглядзе нейкай руплівай Евы, якой пазбаўленая ранняга энтузіязму паходка пацвярджае біблейскі расказ пра выгнанне з Раю... За вёскай паказаўся мне яе дарожны ўказальнік, на заржавелым жоўтым фоне, быццам доказ колішняга там Эдэму.

Вось з гэтай вёскі, з Парчоўцаў, выводзілася сям'я арыгінальнага беларускага рэлігійнага дзеяча Антона Неманцэвіча. Пра яго пісаў быў адзінаццаць гадоў таму на старонках „Нівы" Сяргей Чыгрын: „Нарадзіўся Антон Неманцэвіч у 1893 годзе каля Саколкі на Беласточчыне. Скончыў Віленскую духоўную каталіцкую семінарыю і Петраградскую каталіцкую духоўную акадэмію. Калі вучыўся ў акадэміі, прымаў актыўны ўдзел у рабоце Беларускага гуртка, вывучаў і цікавіўся гісторыяй Беларусі, асабліва гісторыяй уніяцкай царквы. Пасля заканчэння духоўнай акадэміі ў 1918 годзе Антон Неманцэвіч працуе вікарыем парафіяльнага касцёла святой Кацярыны ў Петраградзе. За пратэст супраць арышту беларускага біскупа Цепляка, айца Неманцэвіча на некалькі месяцаў арыштоўваюць і саджаюць у турму, а ў 1923 годзе ў турму ён трапляе паўторна. Яго вызваляюць у 1925 годзе ў выніку абмену палітвязнямі паміж СССР і Польшчай. Выйшаўшы на волю, наш зямляк едзе ў Рым, дзе вывучае тэалогію. З Рыма ў пачатку восені 1929 года ён прыязджае ў Альбярцін на Слонімшчыну. Тут, у Альбярціне, айцец Неманцэвіч прымае ўсходні грэка-каталіцкі абрад і становіцца настаяцелем грэка-каталіцкай царквы. Дарэчы, грэка-каталіцкая (езуіцкая) група ў Альбярціне мела на мэце адрадзіць у форме гэтага абраду царкоўную унію. Патронамі місіі былі папа рымскі Пій XI і віленскі архібіскуп мітрапаліт Ю. Матулевіч, пасля Р. Ялбжыкоўскі". Сваю працу Антон Неманцэвіч працягваў і ў час акупацыі. А жорсткі час акупацыі гэта ж вельмі выдатная нагода для даносаў на нявыгадных асоб; асновай даносаў была не толькі нейкая матэрыяльная выгада ці нейкая помста, але і міжхрысціянская „любоў бліжняга". Сяргей Чыгрын: „Інтрыгі і даносы моцна паралізавалі дзейнасць а. Антона. Трэба ведаць, што ў тым часе распачаліся на Слонімшчыне расстрэлы каталіцкага духавенства. Але Антон Неманцэвіч не здаваўся, а наадварот, у пачатку 1942 года на Слонімшчыне заснаваў яшчэ Апостальства Малітвы за Беларусь. Раз у месяц святары і прыхаджане маліліся за сваю Бацькаўшчыну. І ўсё ж у жніўні 1942 года гестапаўцы прыехалі ў Альбярцін, увайшлі ў манастыр і арыштавалі Антона Неманцэвіча. Са Слоніма яго адправілі ў Мінск, дзе праз паўгода памёр ад тыфу. Па іншых звестках, айцец Неманцэвіч быў закатаваны ў падзямеллях гестапа".

Смерць Антона Неманцэвіча з рук гітлераўцаў не была выпадковай. Хрысціянства праследавалася не толькі ў Савецкім Саюзе, дзе насаджаўся культ Леніна з яго галоўным прарокам Сталіным. Нешта падобнае адбывалася і ў суседнім, нямецкім таталітарызме. Адольф Гітлер марыў пра ваяўнічую рэлігію ў сваёй дзяржаве, якая б спрыяла ўстанаўленню сусветнага культу арыйскай расы з яго гітлераўскімі прапаведнікамі; для гэтых мэт хрысціянства не лічылася прыгодным. Гэты намер не ўспеў знайсці шырокага прымянення, так як у Савецкім Саюзе — яго здзяйсненне было адтэрмінавана на час пасля сусветнай перамогі гітлерызму. Але ластаўкі новага парадку паявіліся і раней — мучанікамі сталіся святары розных канфесій, напрыклад Максімільян Кольбэ ці Грыгорый Перадзе...

След Антона Неманцэвіча, і то цьмяны, астаўся толькі ў гістарычных запісах. Былі спробы прасунуць яго на алтары ў якасці мучаніка, але дзеля гэтага — як і ў свецкім жыцці — трэба мець надта медыйную біяграфію і магутных паплечнікаў. А ў нашага земляка такіх козыраў не было.

За Парчоўцамі пасляваенны лес — мабыць след пасляваеннай там дзяржаўнай граніцы. Да таго лесу прытулілася невялічкая вёска Чапялі; невялічкая яна таму, што большасць яе жыхароў жыве на хутарах. Ад жвіровага бальшака, што вядзе з Парчоўцаў у Клімаўку, дарога ў вёску прысыпана свежым жвірам, на якім адно некалькі слядоў машын — набліжаюцца ж самаўрадавыя выбары і дзеючай уладзе трэба паказацца дбайнасцю пра выгаду электарату. І з Чапялёў быў таксама святар; інтэрнэтны даведнік: „Шырокі Станіслаў (1881-1956), каталіцкі святар заходняга абраду, магістр тэалогіі, удзельнік беларускага хрысціянскага руху 20 ст., душпастыр. Нарадзіўся 21.10.1881 у в. Чапялі Сакольскага павета Гарадзенскай губ. Паходзіў з сялянскай сям'і Міхаіла Шырокага. Вучыўся ў Сакольскай павятовай навучальні. З кастрычніка 1901 г. — клерык Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі. Пасвячоны ў святары ў 1905 г. У 1909-1912 гг. — адміністратар у парафіі Ружаны Лідскага дэканата. Выказаў жаданне вучыцца за свой кошт у Мітрапальнай каталіцкай духоўнай акадэміі ў Пецярбургу. У час вучобы далучыўся да дзейнасці беларускага культурна-асветнага гуртка студэнтаў-клерыкаў. Удзельнік 1-га з'езда беларускіх каталіцкіх святароў у Менску (24-25.05.1917). Сябра саюза ксяндзоў-беларусаў. З 1917 г. — пробашч у парафіі Парафіянава Надвілейскага дэканата. Выступаў за беларусізацыю нацыянальна-рэлігійнага жыцця сярод католікаў-беларусаў. 27.12.1919 абраны ў раду прасінадальных суддзяў пры біскупскай курыі Віленскай дыяцэзіі. З 1924 г. выконваў святарскія абавязкі ў парафіі Янава Сакольскага дэканата. З 1933 г. служыў пробашчам у парафіі Крынкі і адначасова кіраваў Беръставіцкім дэканатам. У 1935 г. пераведзены ў парафію Кузніца Сакольскага дэканата. Быў сталым падпісчыкам беларускага рэлігійнага каталіцкага выдання „Chryścijanskaja Dumka". Памёр у 1956 г." Крыху інакш пра кс. Станіслава Шырокага піша аўтар манаграфіі Янаўскай гміны Рамуальд Буйвіцкі: „Ks. Stanisław Szyroki wykazał w czasie zaborów niezłomną postawę Polaka. Odmówił odebrania w języku rosyjskim przysięgi na wierność zaborcy. Ostatecznie władze carskie pozbawiły go probostwa w Różankach (pow. lidzki). W uzasadnieniu decyzji stwierdzono, że nawracał prawosławnych na katolicyzm i miał zły wpływ na prawosławie. (...) Na początku lat trzydziestych z wielkim zaskoczeniem i dezaprobatą część parafian przyjęła wiadomość, że ks. St. Szyroki pochodził z rodziny unickiej, chociaż jego rodzice byli już katolikami". Дарэчы, сам ксёндз Шырокі ў сваёй манаграфіі Янаўскай парафіі, выдадзенай у Беластоку ў 1936 годзе, прыводзіць гэтую інфармацыю: „Dziad Księdza Grzegorz Szyroki, był unitą, wskutek czego rodzina długi czas była prześladowana, jako oporna, przez władze rosyjskie". І далей: „W miesiącu styczniu 1909 r. zostaje naznaczony na proboszcza do Różanki (цяпер у Шчучынскім раёне Гродзеншчыны — А. В.), lecz po 3,5 latach za „sowraszczenie" z prawosławia zostaje pozbawiony tego probostwa. Korzystając z przymusowego wypoczynku, udaje się na wyższe studja do Akademji Duchownej w Petersburgu, gdzie po 4-ch latach zdobywa stopień Magistra Teologji. Po skończeniu Akademji (w 1916 r.), zostaje przydzielony do pomocy znękanemu starością i chorobą Księdzu Andruszkiewiczowi, dziekanowi w Witebsku, a po śmierci tego pełni w ciągu roku obowiązki proboszcza przy kościele św. Antoniego w tymże Witebsku. Po wybuchu rewolucji w Rosji i po zdetronizowaniu cara Mikołaja II, ksiądz Szyroki zostaje naznaczony (we wrześniu 1917 r.) na proboszcza do Parafjanowa [Вікіпедыя: Параф'янава — даўняе мястэчка гістарычнай Ашмяншчыны (частка Віленшчыны). У 1902-1906 за 2 км ад мястэчка прайшла Балагое-Сядлецкая чыгунка.], przechodzącego sześciokrotnie z rąk do rąk od Rosjan do Niemców, od Niemców do bolszewików, i dwukrotnie od bolszewików do Polaków. Więziony w tym okresie czasu dwukrotnie przez bolszewików i uciekając każdorazowo szczęśliwie z niewoli, doczekał się w tymże Parafjanowie zawarcia przez Rząd Polski pokoju z Sowietami. Nie przeszkadzało to jednak wcale bandom bolszewickim przekraczać ustaloną traktatem pokojowym granicę i napadać na obywateli polskich. Znękany niewolą i niepokojony napadami band bolszewickich, prosił Ks. Szyroki Władzę Duchowną o przeniesienie go z Parafjanowa (położonego nad granicą bolszewicką) w głąb kraju...". У 1924 годзе ксёндз Шырокі быў пераведзены ў Янаў.

У прыведзенай кароткай біяграме ксёндз Шырокі нічога не згадвае пра свае асабістыя беларускія дачыненні. Ёсць затое кароткія рэфлексіі пра такія дачыненні ягонай паствы: „Znikły z oblicza ziemi w tej okolicy zwyczaje, śpiewy, stroje — słowem kultura ludowa. Nic tu bowiem lud swoistego nie ma, prócz języka białoruskiego, do którego też sam nie wie czy się przyznawać. (...) Nie wspomniałem tu nic o śpiewach weselnych, bez których gdzieindziej nie można sobie wesela wyobrazić; w parafji Janowskiej ludowe śpiewy weselne nie istnieją wcale, dla tej prostej racji, że młodzież po białorusku śpiewać albo się wstydzi albo zapomniała, a po polsku jeszcze się nie nauczyła". Гэта своеасаблівае культурнае развітанне з Радзімай, як у загалоўку славутага паланэза выраслага з беларускай зямлі Міхала Клеафаса Агінскага. Бо беларусам, здаецца, наканаваны такі ж лёс, як і залацістаму асенняму лістоўю. Як у Рабіндраната Тагора: „Лісток упаў, і так рашыў: нягода — вясна сысла са свету назаўсёды". Як у „Тутэйшых" Янкі Купалы, дзе ўсходнія і заходнія „вучоныя" абстрагаюць беларускі краявід з яго найпрыгажэйшага дэкору.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Нешта больш чым тоеснасць літаратуры

— Тут яднаюцца славісты і арыенталісты, — гаворыць д-р Гжэгаж Чарвінскі з Кафедры філалагічных даследаванняў „Усход — Захад" Універсітэта ў Беластоку. Той жа малады, але вопытны і таленавіты навуковы работнік, узяў на сябе старшынства арганізацыйнага камітэта Міжнароднай навуковай канферэнцыі „Эстэтычныя аспекты літаратуры польскіх, беларускіх і літоўскіх татараў (з XVI па XXI ст.)", якая адбылася 14 і 15 лістапада ў Беластоку і Саколцы.



Д-р Дзмітры Сяўрук

Асобы зацікаўленыя тэмай маглі выслухаць каля дваццаці дакладаў, зачытаных навукоўцамі з Польшчы, Беларусі, Украіны, Англіі і Татарстана. У рамках суправаджальных мерапрыемстваў арганізатары зладзілі прамоцыю навейшых выданняў, прысвечаных татарскай тэме.

— У асноўным хацелі мы паразважаць над татарскай літаратурай, паглядзець на яе цэласна, пачынаючы з крыніц развіцця, значыць з XVI ст., па сённяшні дзень, — інфармуе д-р Гжэгаж Чарвінскі. — Тут выразна рысуецца падзел на дзве часткі: першая, створаная да XIX ст. на польскай ці беларускай мовах, што таксама важнае, запісана арабскім алфавітам; другая — ахапляючая пазнейшы перыяд, ужо польская, беларуская, літоўская і рускамоўная. Думалі мы таксама над спосабамі яе даследавання, спрабавалі вырашаць ці ідзе тут пра адзіную з відавочным працягам літаратуру, ці з зусім нешта іншым, якое цэласна разглядаць немагчыма.

Некаторыя з дакладаў былі прысвечаны праблеме татарскага фальклору, асабліва некананічным малітвам, замовам, закляццям, казкам і паданням. Д-р Дзмітры Сяўрук з Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў Мінску засяродзіўся на аналізе не да канца даследаванага невялікага зборніка экзарцыстычных тэкстаў, змешчаных у хамаілах беларускіх татараў.

Згаданыя „парамедыкі" паўсталі на арабскай і турэцка-асманскай мовах. Іх тлумачэнні і дадатковыя інструкцыі запісвалі па-беларуску. Што цікава, змяшчаецца там цэлы рад імён і эпітэтаў, узятых з яўрэйскіх абрадаў, таму што нячыстая сіла магла быць хрысціянінам, мусульманінам ці яўрэем. Аўтар зборніка невядомы. Безумоўна, валодаў ён арабскай і турэцкай мовамі ды разумеў змест і значэнне малітваў. Запісы гэтыя архаічныя, адны з першых, якія праніклі з Анатоліі ці Залатой Арды на тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага разам з татарскімі перасяленцамі.

— Сучасным беларускім татарам сэнс гэтых малітваў зусім незразумелы, — кажа д-р Сяўрук. — Іх апошнія карыстальнікі адышлі дзесяць гадоў таму. Пісьменніцкая традыцыя здолела захаваць тое, што ўжо не існуе.

У Беларусі рыхтуецца змястоўная публікацыя па гэтай тэме.

— Ёсць ужо некалькі артыкулаў, — запэўнівае дацэнт Ірына Сынкова з Мінска. — Два з іх паказаліся ў Торуні. У другой частцы „Хрысціянска-мусульманскага дыялогу" быў змешчаны мой артыкул аб хрысціянскіх уплывах у татарскім знахарстве, які звяртае ўвагу на выкарыстанне біблейскіх матываў у замовах. Другі з артыкулаў, прачытаны ў 2009 г., датычыў структуры знахарскіх арабскіх і турэцкіх тэкстаў і суправаджальных славянскіх інструкцый і тлумачэнняў.

Моўнае становішча беларускіх татараў у вялікім скарачэнні прадставіў дацэнт Міхаіл Тарэлка з Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

— Да нашых дзён датрывала не менш чым 300 татарскіх рукапісаў, паўсталых на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага. Найстарэйшыя, запісаныя па-беларуску, паходзяць з XVIII ст., значыць татары прынялі гэтую мову як родную яшчэ ў канцы XVII ст. Згаданыя тэксты запісаныя арабскімі літарамі, але яны глыбока насычаны ўплывамі старабеларускай мовы. Гэта вельмі важны даследчыцкі матэрыял у галіне гісторыі і дыялекталогіі беларускай мовы. Ёсць там таксама польскія тэксты на так званай крэсавай пальшчызне. Вядома, што яны не ўзніклі на этнічнай польскай тэрыторыі, а менавіта на беларускай, а іх аўтары штодзень карысталіся не польскай, толькі беларускай мовай. Па сённяшні дзень ў Мінску захоўваецца запісаны там у 1686 г. поўны беларусізмаў рукапіс перакладу „Карана" на польскую мову.

У міжваенны перыяд так татары, як і беларусы былі паланізаваны. За савецкім часам скрозь панаваў лозунг „колыбаться вместе с партией". Магчыма ён адпавядаў нарматывам тагачасных прадстаўнікоў гэтых нацый. Пачатак 1990-х гадоў гэта культурнае адраджэнне татараў і беларусаў. Варта напомніць, што шмат сучасных татара-мусульман прынялі беларускую мову як сваю. Іх нацыянальнае адраджэнне цесна звязана з вяртаннем беларушчыны ў паўсядзённае карыстанне. Мабыць, сярод татараў знойдзецца больш працэнт такіх, якія карыстаюцца беларускай мовай паўсядзённа, чым сярод саміх беларусаў.

Татары ВКЛ, крымскія і казанскія ствараюць тры розныя этнасы. Нашыя, з ВКЛ, тут сфарміраваліся і звязаліся з беларускай мовай як роднай. Таму нельга гаварыць пра нейкую асіміляцыю.

Непакоіць аднак факт спіхвання беларускай мовы ў падполле на той жа надта цікавай канферэнцыі.

**Тэкст і фота Іаанна ЧАБАН**

# http://tarantino.by




Распаўсюджаная па ўсім свеце арганізаваная практыка напісання журналістамі рэкламных ці іміджавых артыкулаў нарэшце дабралася да Беларусі. Праўда, там усё праходзіць са своеасаблівым нюансам. Канешне, у Беларусі, як і па ўсім свеце, дзейнічаюць PR-агенцтвы, якія займаюцца прамоцыяй і рэкламай сваіх кліентаў. Але ў Беларусі ёсць і так званыя журналісцкія агенцтвы, якіх аўтару гэтых радкоў не ўдавалася сустрэць у іншых краінах. Адным з прыкладаў такой з'явы з'яўляецца журналісцкае агенцтва „Таранціны і сыны", заснавальніцай якой стала мінская журналістка Ганна Трубачова.

Сайт гэтага агенцтва не прыцягнуў бы аніякай увагі, калі б матэрыялы на ім не падаваліся па-беларуску, што само па сабе даволі дзіўна, калі ўлічваць агульны заняпад беларускай мовы ў Беларусі. Уласна факт існавання такога сайта — чарговае сведчанне, мякка кажучы, няслушнасці слоў цяперашняга беларускага правіцеля Лукашэнкі, што на беларускай мове нельга выказаць нічога разумнага. Аказваецца не толькі можна нешта разумнае казаць, але і рабіць бізнес, больш таго — журналісцкі.

Калі цікаўны карыстальнік набярэ на сваім камп'ютары адрас у інтэрнэце http://tarantino.by, то перад яго вачыма адкрыецца даволі простае, але арыгінальнае выяўленне. „Мы — «Таранціны і сыны» — каманда прафесійных журналістаў, фатографаў, капірайтараў і PR-агентаў. Мы ўпэўненыя, калі кожны будзе займацца сваёй любімай справай, стане выконваць яе якасна і прафесійна, жыццё вакол зменіцца ў лепшы бок, з'явіцца больш спецыялістаў і якасных рэчаў (паслуг), больш падстаў усміхацца і дарыць радасць акружаючым", — распавядаецца на галоўнай старонцы сайта. Пры гэтым не даецца тлумачэнне, чаму для журналісцкага агенцтва ўзята менавіта такое імя, і хто такія „мы" не раскрываецца. Ніводнага прозвішча на той старонцы не пабачыш.

„Мы верым у Горад майстроў, дзе з любоўю пяклі хлеб, і ён быў вельмі смачны, дзе з веданнем справы шылі выдатныя сукенкі, і людзі насілі іх з задавальненнем, дзе на стагоддзі выраблялі каваныя вырабы, якія ўпрыгожвалі горад. Наша праца — гэта не проста наша любімая справа, гэта вялікая частка нашага жыцця, пражыць якую мы хочам цікава і радасна", — кажуць працаўнікі пяра, чарнілаў і фотакамеры.

Згодна з пададзенай на сайце інфармацыяй, сярод тых, хто скарыстаўся ўменнем журналістаў „Таранцінаў" пісаць артыкулы і інтэрв'ю — пасольствы Польшчы, ЗША і Швецыі ў Беларусі, нямецкі Інстытут імя Гётэ ў Беларусі і Польскі інстытут у Мінску.

Пра іншыя працы агенцтва можна даведацца на старонцы „Праекты". А ў „Навінах", акрамя таго, можна пабачыць галерэі фотаздымкаў і інтэрв'ю, якія рабіліся штомесяц.

Дзіўна, але нідзе на сайце не ўдалося знайсці, што стваральніцай агенцтва з'яўляецца менавіта Ганна Трубачова, пры тым што яна мае там уласную аўтарскую калонку. Раскрыць гэты „сакрэт" можна толькі добра паблукаўшы па інтэрнэце.Таксама толькі там можна адшукаць адказ на пытанне аб назве агенцтва.

„Мастачка Ніка Сандрас паведаміла майму мужу, што ён падобны на знакамітага рэжысёра. Мянушка замацавалася за Сашам, і вось ужо многа гадоў ён падпісвае свае фотарэпартажы як „Аляксандр Tarantino Ждановіч". Пры ўсёй нашай занятасці мы маем дагэтуль агульны скайп на дваіх, у якім мы пазначаны як Mr.&Mrs. Tarantino. Усе сябры-прыяцелі Сашы (ды і мае ўжо таксама) называюць нас «таранцінамі», — распавядаецца ад імя Ганны Трубачовай на „гламурным" сайце pret-a-portal.by.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара

Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара



Дыпламат, перакладчык, палітолаг

# 200 гадоў з дня нараджэння Восіпа Гашкевіча

Дыпламат, навуковец-мовазнавец, даследчык Японіі і Кітая, натураліст, арыенталіст, чалавек незвычайнага лёсу Восіп Гашкевіч нарадзіўся 3 снежня 1814 г. у Менскім павеце ў сям'і святара Міхайлаўскай царквы вёскі Стралічава (тагачасны Рэчыцкі павет). Дзяцінства правёў у вёсцы Якімава Слабада (Рэчыцкі павет) на рацэ Бярэзіне. Вучыўся ў царкоўна-прыходскай школе, дзе настаўнікам быў ягоны бацька. У 12 год паступіў у Менскую духоўную семінарыю. У 1839 г. скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію, дзе авалодаў некалькімі мовамі. У 1839 г. выдаў літаграфічным спосабам Біблію, што змяшчала першы пераклад старазапаветных кніг з габрэйскай мовы на расейскую. У 1839-1849 гг. быў у складзе Расейскай духоўнай місіі ў Пекіне. Даследаваў культуру Кітая, вывучаў кітайскую, карэйскую і японскую мовы. Адначасна займаўся пытаннямі астраноміі і метэаралогіі, сабраў калекцыю насекомых. Як драгаман (перакладчык) суправаджаў на фрэгаце «Палада» дыпламатычную місію Яўфімія Пуцяціна ў Японію (1852-1855 гг.). З яго ўдзелам быў заключаны Сімодскі трактат — першая расейска-японская дамова, якая паклала пачатак двухбаковым дыпламатычным і гандлёвым стасункам. Па дарозе з Японіі захоплены ў палон англічанамі з прычыны Крымскай вайны, якая тады ішла. Знаходзіўся ў Ганконгу, потым у Вялікабрытаніі. У 1856 г. вярнуўся ў Расею.

У 1858-1865 гг. першы расейскі консул у Японіі (на Хакадатэ), адначасна выкладаў у Хакадацкай расейскамоўнай школе. Адзін з першых замежнікаў, якому дазволілі наведаць унутраную Японію, у тым ліку двор сёгуна (правіцеля Японіі) у Эда (цяпер Токіо). Пасля адмены ў Японіі забароны на прапаведь хрысціянства, Гашкевіч звярнуўся ў Сінод з просьбай даслаць годнага святара. Дасланы быў айцец Мікалай Касаткін, пазней кананізаваны Праваслаўнаю Царквою як свяціцель Мікалай Японскі. Пасля смерці жонкі ў 1864 г. Гашкевіч год пазней вярнуўся ў Пецярбург. У кастрычніку 1867 г. выйшаў у адстаўку і жыў у маёнтку Малі (цяпер Астравецкі раён), дзе працягваў займацца ўсходняй філалогіяй. Узяў другі шлюб з дачкой адстаўнога палкоўніка.

Шматлікія калекцыі флоры і фаўны Паўднёвай Афрыкі і Паўднёва-Усходняй Азіі, сабраныя ў час падарожжаў, Гашкевіч перадаў Заалагічнаму музею Акадэміі навук у Пецярбургу. Выдадзены ім першы ў Расеі «Японска-расейскі слоўнік» (1857, разам з Тацібана Каосам) адзначаны медалём Пецярбургскай АН і Дзямідаўскай прэміяй. Гашкевіч дасканала валодаў ажно 13 мовамі.

Памёр Восіп Гашкевіч 5 кастрычніка 1872 г. у маёнтку Малі, пахаваны ў Вільні на Еўфрасіннеўскіх могілках. Яго імя носяць вуліца ў Менску, заліў у Паўночнай Карэі (па-карэйску: Чосанман) і некаторыя даследаваныя ім вусені. У японскім пасёлку Хэда (прэфектура Сідзуока, востраў Хансю) ёсць музей з матэрыяламі пра Восіпа Гашкевіча, у гарадку Фудзі (прэфектура Сідзуока) стаіць помнік экіпажу фрэгата «Дыяна», на якім значыцца прозвішча і Гашкевіча. У горадзе Хакадатэ (востраў Хакайда), дзе было першае расейскае консульства, у 1989 г. устанавілі ў музеі бронзавы бюст Восіпа Гашкевіча. Таксама бюст паставілі і ў вёсцы Малі пад Астраўцом. Лёсу Гашкевіча прысвечана кніга гісторыка Віталя Гузанава „Адысей з Беларусі".

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Новыя купалы

**У суботу, 22 лістапада ў вёсцы Лазні, што ў Супрасльскай гміне, адбылося ўзвядзенне купалаў на будаванай там капліцы. Урачыстасць удастоілі беластоцкі архіепіскап Іакаў і супрасльскі епіскап Грыгорый ды каля паўтара дзясятка навакольнага духавенства.**



Капліца ў Лазнях будуецца за кошт ужо нешматлікай там грамадкі праваслаўных вернікаў ды за сродкі спонсараў; галоўны з іх жыве ў Варшаве. Нябесным заступнікам новага храма выбраны святы Лука, колішні епіскап сімферапальскі і крымскі, у міры — Валянцін Война-Ясянецкі.

Нарадзіўся ён у 1877 годзе ў Керчы ў сям'і паланізаванага беларускага шляхціца, якога продкі жылі на тэрыторыі сённяшняга Сенненскага раёна, што на поўдні Віцебскай вобласці. Віцебская газета „Народнае Слова" так год таму пісала пра яго: „Он из знаменитого княжеского рода, находившегося в большой чести во времена Великого княжества Литовского. Константин Войно-Ясенецкий был воеводой на Луках, его сын Иван — воеводой смоленским, а внук Александр — войсковым витебским подвоеводой виленским. С конца XVII в. род беднеет, его потомки уже королевские гвардейцы, священники, судьи. В начале XIX в. владельцы пышного герба превратились в простых землепашцев в Сенненском уезде. Дед Валентина Войно-Ясенецкого Станислав был мельником, жил в курной избе, обувался в лапти, на медведя ходил с рогатиной. Отец вырвался из этой глуши благодаря поддержке мецената — окончил гимназию, фармацевтический факультет, открыл свою аптеку. Он был католиком, а женился на православной. Валентин — третий ребенок в их семье — станет знаменитым хирургом и архиепископом". Ягоная маці Марыя была з праваслаўнай сям'і. Аднак рэлігійнасць, як успамінаў сам Валянцін, пераняў ён па бацьку, які быў шчырым, але талерантным каталіком. Сям'я пераехала ў 1889 годзе ў Кіеў, дзе будучы святы вучыўся ў асноўных школах, а пасля на медыцынскім факультэце Кіеўскага ўніверсітэта. Пасля завяршэння медыцынскай адукацыі працаваў ён у расійскай глыбінцы, аднак увесь час займала яго мясцовае абязбольванне ў час хірургічных аперацый. Быў гэта час, калі хірургічныя аперацыі выконваліся без абязбольвання, а анестэзія толькі пачынала прабівацца ў шпіталі імперыі. Увесь вольны час ён стараўся праводзіць у маскоўскіх бібліятэках і медыцынскіх установах, знаёмячыся з усімі анестэзіялагічнымі навінкамі. Бальшавіцкая рэвалюцыя засцігла яго ў Ташкенце. Там памерла ягоная жонка і ён у маі 1923 года прыняў манаскі пострыг і тут жа, 31 мая быў хіратанізаваны ў сан епіскапа, а ўжо 10 чэрвеня быў арыштаваны бальшавікамі. У пачатку 1924 года епіскап Лука трапляе ў Сібір, а годам пазней, у найбольш лютыя маразы, за Палярны круг. Аднак яго навуковы аўтарытэт быў настолькі высокі, так у СССР, як і ў замежжы, што яго ў пачатку 1926 года вярнулі ў Ташкент. У 1931-1933 гадах быў у ссылцы ў Архангельскай вобласці. „Народнае Слова": „В 1937 г. подвергался страшным пыткам в тюрьме. Ему устраивали так называемые конвейеры — многосуточные беспрерывные допросы с побоями, после которых в камеру притаскивали волоком. Но Войно-Ясенецкий не подписал сфабрикованных энкаведистами протоколов даже после 13 таких вот мучительно-бессонных суток". У заяве следчым ён напісаў: „Чыстыя ідэі камунізму і сацыялізму, блізкія евангельскаму навучанню, былі мне заўсёды роднаснымі і дарагімі, але метадаў рэвалюцыйных дзеянняў я, як хрысціянін, ніколі не адабраў". У 1940-1946 гадах зноў быў у ссылцы ў Сібіры. Аднак у час ссылак епіскап Лука не пакідаў ні навуковай, ні пастырскай дзейнасці. І ў выніку першай — за навуковыя працы па хірургіі — прафесару Валянціну Война-Ясянецкаму была ў 1946 годзе прысвоена Сталінская прэмія першай ступені. Тады ж і духоўныя ўлады перавялі яго на кафедру ў Сімферопаль, дзе служыў да смерці ў 1961 годзе. Украінская Праваслаўная Царква прылічыла архіепіскапа Луку ў лік святых у 1995 годзе, а Руская — пяць гадоў пазней.

На ўрачыстасць узвядзення купалаў сабралася каля паўтары соткі народу. Пропаведзь сказаў архіепіскап, выразна падкрэсліваючы, што закладка купалаў з'яўляецца другім этапам узвядзення храма: першым была закладка краевугольнага каменя, а трэцім будзе асвячэнне прастола. Паколькі мерапрыемства пачалося а першай гадзіне пасля поўдня, да таго ж у непрыхільнае адліжнае надвор'е, пастырства і апошняя публіка вытрывала духоўнае выпрабаванне толькі да закладкі першага купала, а дакладней кажучы — да часу чакаючага іх пачастунку. Паства, парадаваўшы свае страўнікі сціпленькім кавалачкам пірожнага і гарачай гарбатай пад адкрытым небам, аздобленым ужо залацістым купалам, рванула хто куды. Пастырства рванула ж прыносіць свае бяскроўныя ахвяры ў нейкі адлеглы і больш камерны алтар, крыху быццам калісь доктар Валянцін Война-Ясянецкі да хворых у расійскай глыбінцы. „Народнае Слова": „Он никогда не терял интереса к судьбам своих пациентов, выясняя причины болезней или обстоятельства, при которых были получены травмы. Большинство этих записей обнажают быт простых людей: ушиб ногу упавшим бревном, ударила в лицо копытом лошадь, свалился со стога, в праздник получил удар колом по голове, тесть ткнул вилами в бок, пьяный сам упал с крыльца, на Петров день получил удар в грудь ножом и т. д. А как священник наставлял людей: «Относитесь бережно ко всякой чужой вере, никогда не уничижайте, не оскорбляйте»".

Закладка апошніх чатырох купалаў адбывалася ў прысутнасці адно работнікаў фірмы.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. рака між Масквой і Волгай = 16 _ 6 _ 7 _;
2. цякучая сумесь вадкіх і цвёрдых рэчываў = 10 _ 15 _ 22 _ 24 _;
3. магутнасць = 8 _ 9 _ 18 _;
4. можа быць блакітнае, яснае, адкрытае, сёмае = 4 _ 3 _ 14 _ 13 _;
5. мроя, начны сюжэт — здараецца прарочы = 2 _ 21 _ 23 _;
6. скрынка з вузкай адтулінай для апускання выбарчых бюлетэняў = 1 _ 20 _ 11 _ 12 _;
7. касіў канюшыну = 19 _ 17 _ 5 _.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| | | | | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | | | | | | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |

(ш)

Сярод чытачоў, якія дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 46 нумара**

Опера, жоўць, музыка, Скарына, Войніч, вятрак, рэч, бокс, мучыцель, заяц.

Рашэнне: **Кожнаму свой чарвяк сэрца точыць**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 07.12 — 13.12

**(22.03. — 20.04.)** Многа энергіі і паслядоўнасць. Знакаміты час на будаванне новых адносін. Шанцы спаткаць любоў жыцця. 10-14.12. захопіш сваёй жыццярадаснасцю і прастасцю падыходу да пачуццяў. У пары атмасфера зразумення і блізкасці. Толькі Бараны з 1-4.04. будуць радыкальныя ў пошуках вырашэнняў, калі б абмяжоўваў іх партнёр. Ад 10.12. дагаворы, саюзы. Асабліва моцным будзеш з 13.12.

**(21.04. — 21.05.)** Ад 10.12. выявіцца твая сіла і адчайнасць, будуць поспехі і карысці. Закаханыя Быкі могуць перажыць хуткае захапленне, пасля хуткае расчараванне. Будзеш многа бываць і бегаць. Не зладві хваробішча, а калі ўжо, дык добра выкуруйся, бо будзе валачыцца тыднямі. Цяжкі настрой шэфа адчакай, не дыскутуй, рабі сваё, непаразуменні мінуць. Ашчаджай — чакаюць непрадбачаныя выдаткі.

**(22.05. — 22.06.)** Ад 6 да 10.12. не вырашай важнага, бо не прыкмеціш усіх пагроз. Не бяры пазык. 7-11.12. гармонія ў трывалых парах. 10-14.12. будзеш настроены аптымістычна да свету і людзей, і ўсё табе ўдасца. Калі марыш аб шлюбе, трыгон Юно з Сонцам (7-11.12.) пранясе чаканае прызнанне. Паездку арганізуй паміж 10-14.12. Варушыся!

**(23.06. — 23.07.)** 10.12. пачнуцца прыгожыя дні ў пары. Паладзяцца старыя канфлікты. Можаш разлічваць на блізкіх. Твой дом будзе крэпасцю, а ты — сямейным падмуркам. Будуць прапановы дробных прац або большага мерапрыемства — не адмаўляйся, прыйдуць ад гэтага стабільныя падзаработкі. Не абмінай лекара.

**(24.07. — 23.08.)** Прыцягвае цябе ўсё небяспечнае. Прачнецца ў табе душа ваяра. Асабліва адзінокі Леў будзе схільны да адважных паводзін і ажыццяўлення фантазій. Але будзеш і талковы, час ад часу асцярожны. Падтрымка і адабрэнне сям'і. Ад 10.12. абцяжарваючыя тваё здароўе дні, асабліва пільнуйся ад вірусаў. З 12 (да 17.12.) чакаюць цябе шчаслівыя супадзенні.

**(24.08. — 23.09.)** Будзь уважлівым і глядзі глыбей — хтосьці на першы погляд малапрыкметны можа стаць каханнем твайго жыцця. А калі ты ўжо маеш пару, з 12 (да 16.12.) забудзеце пра тое, што вас дзеліць, і пераканаецеся як добра быць разам. Магчымыя спрэчкі з дзецьмі і з далейшай сям'ёй. Выкажыся дыпламатыяй і навучыся казаць „Не!". Рэгулярна варушыся і добра высыпайся.

**(24.09. — 23.10.)** Усе сумненні высвятляй, а крыўды даруй — ужо неўзабаве ўбачыш, як гэта варта. Не прапускай імпрэз, асабліва сямейных. Настрой добры, але можаш адчуваць слабасць у здароўі, неператамляйся, рабі ўсё ўласным тэмпам; асабліва даглядай сваю шчытавідку (тарчыцу).

**(24.10. — 22.11.)** Не рабі „скокаў убок", бо горка пашкадуеш. Лепш распалі гаснучы агонь у пары. Самотны Скарпіён можа пазнаёміцца з цікавай асобай; не разлічвай на яе асаблівую ангажаванасць. Ды не перамайся — перад канцом зімы паявіцца хтосьці варты „інвестыцыі" пачуццяў. Адпачывай, не перанатужвай арганізму. Асабліва пільнуй свой жывот. Добра лічы свае грошы.

**(23.11. — 22.12.)** Дабрадзейная стабілізацыя ў пары, зможаш вырашыць важнае для вас (партнёр можа не будзе такі на гэта гатовы). Пік формы (аж да 22.12.). 10-14.12. твая кар'ера будзе развівацца вельмі дынамічна; аграмадны рост амбіцыі, але і паспяховасць; смела стаў свае патрабаванні, таксама фінансавыя. Але не бяры крэдытаў. 8-12.12. можаш пачуць непрыемныя выказванні аб табе; не рэагуй гвалтоўна.

**(23.12. — 20.01.)** І ў інтарэсах, і ў пачуццях усё будзе круціцца хутчэй. Не адмаўляйся ад сямейных (перш за ўсё) імпрэз, добры кантакт са сваякамі. Можа, выбярэшся да сяброў за мяжу. Можаш паспяхова сесці на дыету. Пазітыўнае мышленне 10-14.12. падтрымае Юпітар.

**(21.01. — 19.02.)** Добры секс, супольнасць душаў і каханне з хепі-эндам. Пара на лепшыя рэчы чым грошы! Але на працы асабліва нялёгкія выклікі — пільнуй абяцанняў, тэрмінаў. А 10-14.12. будзе добры час на негацыяцыі і намячанне супольных стратэгій.

**(20.02. — 21.03.)** Няма кахання без шчодрасці; мусіш вырашыць — поўны кашалёк ці занятае сэрца. З 12 (да 16.12.) — ідэальны час на любоўныя прызнанні. Але Рыбы народжаныя ў лютым няхай не дадуць сябе звесці салодкім пустым слоўцам. 10.12. зноў выцягнеш кагосьці з кабалы і не спытаешся «А я табе не казаў?!». 10-14.12. сыпанеш на працы знакамітымі ідэямі, асабліва наконт інвестыцый і плённых інтарэсаў.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet:** *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail:** *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня:** „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.


Рака Ціса

# Украіна
## ў цяні вайны (11)

У сваіх замежных падарожжах я не разлічваю на сустрэчы з земляками. Рэдка калі вылавіш іх з натоўпу па сваяцкім выглядзе. На тое, што пачуеш іх мову — няма надзеі: адны чырыкаюць па-расейску, другія шчабечуць па-польску. Раз толькі пашанцавала пабачыць мне маладзёна на лётнішчы ў Амстэрдаме, які чытаў „Нашу ніву".

У Ярэмчэ мы наткнуліся на дзве малалеткі, які сядзелі сабе на лавачцы ды слухалі **Vinsenta**. Як аказалася, прыехалі яны на адпачынак з валынскага Луцка, а не з Пінска ці Мінска.

Дзень пазней у аўтобусе, які віўся небяспечным серпанцінам над прорвамі, жанчыны, што вярталіся ў свае горскія вёскі з пакупак з „карпацкага Парыжа", то-бок мястэчка Рахаў, захапляліся нейкім Сашкам з Мінска.

— Як пайшоў у горы, то тыдзень часу сядзеў, не паказваўся на вочы!

— А што ён ад жонкі ўцёк ці ад мафіі хаваецца? — пацікавілася суседка.

— Не, ён правярае ці можна доўга жыць без цывілізацыі, — адказала жанчына.

— То як у тэлевізары!

— Гэты адважнейшы!

Сашка пайшоў у горы на тыдзень часу як стаяў, без цёплай вопраткі, яды і тэлефона. З адной сякеркай у руках. У лесе збудаваў сабе шалаш, мыўся ў халодным патоку, варыў грыбы і зёлкі, а калі дакучаў холад, займаўся спортам. Пасля тыдня вярнуўся, каб пазваніць родным у Беларусь. Шчаслівы, энергічны. Уся вёска глядзела на Сашку як на паўстанца. А ён толькі паціснуў плячыма і кажа:

— У лесе больш бяспечна як у горадзе, ніхто цябе тут не штурхае, не крычыць, на работу не выпіхае...

Апошняе сцвярджэнне не надта нам падыходзіла да іміджу працавітага беларуса, аднак захапленне гуцулак зрабіла сваё, з кожным адрэзкам дарогі іх ідэал станавіўся нашым ідэалам.

* * *

У Рахаве, у тым жа „карпацкім Парыжы", названым так з-за дзвюх элегантных вулачак і моста, кружыў па вакзале п'яны ветэран сучаснай вайны. Ён зачапляў нешматлікіх пасажыраў і патрабаваў, каб тыя, на зважай, адгукаліся на яго лозунг: *Слава Украіне!*

У рэшце рэшт чэрці падаслалі яго і ў наш аўтобус. Жэня, бо так прадставіўся ветэран у мілітарнай форме, нават не думаў набываць квіток. Ён прайшоўся па аўтобусе, каб асабіста прывітацца з прадстаўнікамі мужчынскага полу, падаць ім *Слава Украіне!* ды запытаць у кожнага проста з ходу: *А чаму ты яшчэ не на фронце?*

Найгорш было з маладымі, якія калупаліся ў сваіх смартфонах і айфонах.

Ветэран Жэня страшэнна знерваваўся. Ён падышоў да выбранага з натоўпу хлапчука, нахабна ўхапіў за кабелі ад навушнікаў, сарваў іх з галавы маладзёна і выслужанымі чаравікамі-глянамі патаптаў як нейкую агідную гадзюку. Пасля свайго варварскага акту зароў як паранены звер:

— Слава Украіне!

У аўтобусе ўсе маўчалі і спачувалі ветэрану. Гэта, вядома яшчэ больш знервавала Жэню.

Ён пачаў брыдкасловіць і па чарзе вылікаць мужыкоў на дуэль. Але не было дурных, каб паддавацца такой правакацыі. Шафёр, што і раз спыняўся, каб пазбыцца клапатлівага пасажыра, але той нават не думаў пакідаць аўтобус.

Сама праблема з агрэсіўным пасажырам як нечакана ўспыхнула, так і згасла. Калі наш аўтобус спынілі пагранічнікі і пачалі правяраць дакументы, Жэня раптам ачуняў. Ён кінуўся сустракаць мужчын у мундзірах і кожнаму з іх падаў руку.

Карыстаючыся нагодай, на ўцеху маладзёнам у навушніках, шафёр у спешцы ад'ехаў, усё аглядаючыся за сябе...

Ніхто з пасажыраў не папракнуў дрэнным словам п'янага ветэрана.






* * *

Тым часам наша карпацкая траса, да якой я вярталася ў марах, усё больш чаравала і наклікала дзіўныя думкі і вобразы. Рака Ціса, пачатак якой складаюць два патокі Чорная Ціса і Белая Ціса, зараз прыдбала зялёны колер і дзіцячую лагоднасць. Ці Міхась Жызнеўскі, застрэлены снайперам на Майдане, прадчуваў сваю смерць на чужыне? Яго ўлюбёная песня „Плыве качка па Цісе" (Тече кача по Тисині) стала гімнам Нябеснай Сотні і зараз гучыць ва ўсіх цэрквах і месцах, дзе аддаюць пашану загінулым героям. Змест песні, як не дзіўна, вельмі сугучны лёсу Міхася Жызнеўскага. Малады баец звяртаецца да роднай матулі, каб тая не сварылася і не праклінала яго ў злосці. Ён сам паедзе ў чужую старонку і там, мабыць, загіне ў ліхую гадзіну, чужыя людзі выкапаюць яму магілу і пахаваюць з гонарам як героя. Маці ў сваю чаргу заяўляе, што ніколі яго не адрачэцца і не асудзіць...

У час, калі пішу гэтыя словы, бацькі Міхала Жызнеўскага змагаюцца за добрае імя загінулага сына. У Беларусі не ўсе лічаць яго героем, наадварот, частка грамадства з варожасцю адзываецца аб ахвярах Майдана ды вызывае іх ад фашыстаў і нацыстаў.

Гэтую варожасць, як верацьбацькі Жызнеўскага, можа вылечыць прызнанне іх сыну звання Героя Украіны. На перашкодзе стаіць закон, якія не прадбачвае, каб грамадзяне іншых краін, чым Украіна, атрымалі такое званне. У вырашэнні праблемы паабяцаўся сам прэзідэнт Парашэнка, якога наведалі бацькі Міхася. З цэлага закалоту вакол пратаколаў найбольш прамаўлялі слёзы маці, якія ліліся з глыбіні сэрца, як у карпацкай песні пра Цісу.

Аднак цячэнне гэтай ракі дзіўна супакойвала.

(працяг будзе)

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960